


Рэгіянальная газета. Rh.by
Тэлетыдзень 27 канал
Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".
10 студзеня 2014 года №2 (976)



## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Дзяцей на Вілейшчыне нарадзілася больш

**ВІЛЕЙКА.** У 2013 годзе на Вілейшчыне нарадзілася 471 дзіця. Гэта больш, чым пазалетась (442). Памерлі 907 чалавек (на аднаго больш, чым у 2012 годзе). Больш, чым пазалетась, у 2013 годзе адгулялі вяселляў. У шлюб уступілі 386 пар (у 2012 годзе – 357 пар). З іншаземцамі заключаны 23 шлюбы. У асноўным з грамадзянамі Расіі і Украіны, паведаміла начальнік аддзела ЗАГС райвыканкама **Вольга Мароз.** Хаця некаторыя віляйчанкі выбралі жаніхоў з далёкіх краін: з Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі ды Індыі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### У Смаргоні запрацавала выстава па нумізматыцы і баністыцы

**СМАРГОНЬ.** Гэта фондавая калекцыя ніколі не экспанавалася. Яе можна пабачыць у Смаргонскім гісторыка-краязнаўчым музеі да 2 сакавіка. На выставе можна прасачыць усю гісторыю беларускіх грошай ад 1991 года і заканчваючы сённяшнім днём. Прадстаўленая нумізматыка ад часоў Рымскай імперыі і баністыка ад канца 19 стагоддзя. – Мы маем і вельмі каштоўныя манеты, кошт якіх на сённяшнім рынку дасягае 500-600 долараў, – адзначае дырэктарка музея **Любоў Белуш.** – Сярод прадстаўленых таксама ёсць манеты Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі, савецкія, постсавецкіх краін, а таксама сучасныя. Мы не можам змясціць усе, таму імкнуліся, каб у экспазіцыю ўвайшлі самыя цікавыя. Па жаданні наведнікаў, на выставе можна паглядзець відэаролікі, якія распавядаюць пра тое, як чаканілі манеты і выраблялі грошы. Кошт наведвання для дзяцей – 5 тысяч. Для дарослых – 8 тысяч.

**Настасся РОЎДА.**

### Наехаў на смаргонскую навучэнку, калі перабягала на чырвонае святло

**МАЛАДЗЕЧНА.** Каля 18 гадзін пятага снежня 23-гадовы кіроўца рушыў на "Фордзе-Эскорце" па Вялікім Гасцінцы з боку Смаргоні. На перакрыжаванні ля крамы "1000 дробязяў" эхаў па правай крайняй паласе. 19-гадовая навучэнка Ільянскага аграрнага каледжа са Смаргоні перабягала дарогу па пешаходным пераходзе на чырвонае святло. Дзяўчына атрымала пераломі ранкі, яе шпіталізавалі. 28 снежня ў Маладзечне адбылося ДТЗ, падчас якога пешаход пераходзіў дарогу ў непрызначаным месцы. Пра гэта распавёў дзяржаўтаінспектар Маладзечанскага райаддзела міліцыі **Сяргей БАРТОШ.**

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



# Гасціннасць там, дзе ў пашане традыцыі



Фота Наталлі ТУР.

Калядоўшчыкі з Палачанаў у гасцях у Ніны Станкевіч (злева). У ролі Казы – Людміла Кандратовіч. Зорку трымае Андрэй Афанасенка, Дзед Мароз – Яўген Каткоўскі, акампаніятар – Віктар Сыраквaш, Снягурачка – Зоя Хруцкая.

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад Палачанаў да Маладзечна прыкладна 20 кіламетраў. Усяго 20, але прыехаўшы сюды, разумееш, на якой вялікай адлегласці ад гараджан тыя традыцыі, якія жывуць тут, у звычайнай вёсцы Маладзечанскага раёна.**

Кожны год свята адна-вяскоўцам і жыхарам навакольных вёсак дораць работнікі Палачанскага Дома культуры мастацкі кіраўнік **Людміла Кандратовіч** і акампаніятар **Віктар Сыраквaш.**

Дапамагаюць ім энтузіясты **Яўген Каткоўскі** і **Андрэй Афанасенка,** асноўная праца якіх не звязаная з культурай: Яўген працуе качагарам, Андрэй – будаўніком.

Звычайна ім дапамагаюць вучні мясцовай школы, але 7 студзеня карэспандэнтаў "РГ" запрасілі прыняць непасрэдны ўдзел у абрадзе, апрануўшы ў касцюмы калядоўшчыкаў.

Сёння ў Палачанах 373 двары. Павіншаваць усіх немагчыма, але людзі крыўдзяцца, калі калядоўшчыкі мінаюць іх дамы. Таму што прыход іх здаўна лічыўся добрым сімвалам, бо нясуць добрыя пажаданні на будучы год. Калі яны прыйшлі да цябе, значыць, цябе паважаюць.

У абрадзе калядавання выпадковых рэчаў няма. Кожнае дзеянне, кожны прадмет мае сваё сімвалічнае значэнне.

Першы сярод калядуючых – гэта чалавек, які нясе калядную зорку. Яна сімвалізуе Віфлеемскую зорку, асноўны сімвал Калядаў.

За ім ідуць Дзед Мароз і Снягурачка, якія сімвалізуюць мароз, надвор'е, характэрнае для гэтага часу года. Праўда, сёлетнія калядоўшчыкі шмат жартавалі: ці не перайменаваць Дзеда Мароза ў Дзеда Адлігу. Ніхто з гаспадароў хат, да якіх мы заходзілі, не мог прыгадаць Каляды без снегу, а тым больш, каб людзі заходзілі ў хаты, мокрыя ад дажджу.

Сярод калядоўшчыкаў абавязкова павінна быць каза. Ёй надавалася асаблівае значэнне – прыцягваць багацце ў хату, садзейнічаць добраму ўраджаю.

### 100 гадоў не танцавала

У кожнай хаце Каза танцавала з гаспадаром і гаспадыняй.

Калі Каза першая кідалася ў скокі, немагчыма было стаяць на месцы, каб не станцаваць з ёй. Гаспадыня адной з хат пасля такога гарэзлівага танца прызналася, што 100 гадоў так не танцавала.

Адразу пасля танца каза раптоўна валілася на падлогу і дрыгала нагой. Калядоўшчыкі прыгаворвалі: "Каза казала, што каб яна ўстала, ёй трэба даць кавалак сала". Гаспадары адразу частавалі хто чым: морквай, цукеркай, мандарынамі, кілбасой.

А калі Каза не хацела ўставаць з падлогі, гаспадары запрашалі да стала, які быў багата накрыты ў кожнай хаце. На ім былі традыцыйныя калядныя стравы: аладкі, абаранкі з макам, кісель, дамашні сыр, куцця з гранатавымі зярняткамі і, канешне ж, шмат мясных і рыбных страў.

Працяг на 2-й старонцы.

 



# Гасціннасць там, дзе ў пашане традыцыі

*Заканчэнне. Пачатак на 1-й старонцы.*

Звычайна калядоўшчыкі прыходзяць разам з Мядзведзем, які выпрошваў у гаспадароў салодзенькае. Але гэтым разам мядзведзя не было. Затое быў акампаніятар Віктар Сыракваш, які дарыў гаспадарам віншаванні ў вершах, якія сам напісаў, іграў на гармоніку і спяваў уласныя песні. А калі Віктар найграваў на гармоніку матывы прыпевак, калядоўшчыкі спявалі іх, перабіваючы адзін аднаго. Столькі прыпевак тут ведаюць!

У кампаніі калядоўшчыкаў бываюць персанажы розныя. У нас была цыганка.

У кожнай хаце нас віталі вельмі гасцінна, але чаму так, мы зразумелі толькі ў хаце **Ніны Станкевіч**, якая адказала на гэтае пытанне вельмі проста:

– У нас няма лядовых палацаў і модных стадыёнаў, таму мы кампенсуем гэта простымі чалавечымі зносінамі. Для нас, вяскоўцаў, чалавек – гэта галоўнае багацце. А вы, гарадскія, забываецеся пра гэта.

### Калядная варажба спраўджваецца

Гаспадарам было прыемна прыгадаць, як святкавалі Каляды раней.

І сёння помніцца, як спраўджвалася калядная варажба.

**Людміла Кандратовіч** прыгадвала, як варажылі па сене, што клалі пад абрус. Хто выцягне самую доўгую травіну, той пражыве даўжэй. Самай простай была варажба па брэху сабакі. У якім баку сабака падасць голас, туды і замуж пойдзеш.

– Так і спраўдзілася. Варажылі мы з сяброўкай. Яна выйшла на ганак і пачула, як сабака забрахаў з боку суседняй вёскі. А я не паспела выйсці за парог, як сабака гаўкнуў. Відаць, рана было думаць пра вяселле, я ж тады школьніцай была.

У той жа калядны вечар мы прыкладалі вуха да зямлі, каб пачуць, што чакае нас у будучыні. Мая сяброўка першая прыклала вуха і паклікала мяне, каб я пачула тое, што і яна. А ёй падаліся гукі вяселля, быццам шмат людзей спяваюць вясельныя песні. А я чула толькі, як гудуць электрычныя правады, што настылі на марозе. А праз два месяцы ўжо і ладзілі сяброўцы вяселле. Услед за Людмілай сваю маладосць пачала прыгадваць гаспадыня Ніна Станкевіч.

– А я і без варажбы замуж пайшла ў 17 гадоў. Адразу ж пасля вяселля пайшла жыць да свекрыві, пакуль муж служыў у арміі тры з паловай гады. Усяму таму, што я ўмею рабіць па гаспадарцы навучыла мяне свякроў.



Фота Наталлі ТУР.

Гаспадары, а асабліва дзеці, з радасцю танцавалі з Казой.

### Як адзначалі Каляды

Цяпер не выконваецца і дзясятая частка тых старадаўніх абрадаў, адзначыла Людміла Кандратовіч. Але ўсё ж такія асновы мы ведаць і захоўваць павінны.

Асаблівае месца ў святкаванні Калядаў адводзілася абрадаваму сталу. Стол, вядома, павінен быць багатым, каб у наступным годзе мець добры ўраджай. Пад абрус на стол клалі сена, якое пасля вячэры скормлівалі каровам, гэта павінна было зберагчы іх ад ваўкоў і паспрыяць павелічэнню надояў малака.

У кожнай, нават самай беднай, хаце на Каляды даставалі са схованак мяса ды кілбасы, сала, арэхі, яблыкі, мёд. Ад галоўнай стравы Калядаў – куцці (ячная каша з даданнем мёду, арэхаў) – узяла назву абавязковая святочная вячэра.

У першы дзень ладзілася посная куцця – на стале былі стравы з рыбы, гароднiны, грыбоў, сушанай садавіны, мёду, і, канешне, тая самая ячная каша-куцця з мёдам.

Алкаголь ужываць забаранялася. На куццю варылі саладуху, асаблівы напой, рэцэпт прыгатавання якога, можна сказаць, сёння страчаны. Таму што асаблівай умовай яго прыгатавання было тое, што варылі яго ў печы. А сёння, нават у вёсках, замест печаў стаяць мікрахвалевыя печкі. Віктар Сыракваш з сумам успамінаў, што нічога больш смачнага ў сваім жыцці не еў.

На Каляды, асабліва ў першы вечар, прынята было збірацца разам, усёй сям'ёй, прычым запрашалі на святкаванне не толькі жывых членаў радзіны, але і продкаў. Лічылася, што яны разам з усімі садзяцца за стол, і, калі спадабаецца ім вячэра, – абавязкова "замовяць слоўца" і дапамогуць жывым ва ўсіх істотных справах.

І дзверы ў хату ніколі не зашчэплівалі. У такое свята чалавек не павінен быць адзін. І калі нехта з адзінокіх суседзяў завітае да цябе, трэба было прыняць яго і пачаставаць. Па тым, хто першы на Каляды пераступіць парог хаты, загадвалі, бычок будзе ў каровы ці цялушка.

**Наталля ТУР, Зоя ХРУЦКАЯ.**

АФІЦЫЙНА

## Любы раён Міншчыны можа выйграць 40 мільёнаў долараў на развіццё

**МАЛАДЗЕЧНА. Такая матывацыя стала сёлетнім навоўвядзеннем, паведаміў старшыня райвыканкама Аляксандр Яхнавец на сесіі раённага Савета дэпутатаў, прысвечанай аналізу сацыяльна-эканамічнага развіцця за мінулы год і фарміраванню сёлетняга бюджэту. Яна адбылася днём 31 снежня.**

Паводле сацыяльна-эканамічнага прагнозу на 2013 год, сярэдні заробак у новым годзе з 4, 665 мільёна вырасце да 5, 865. Сярод планаў раёна – абнаўленне аўтапарка, "Забудова" плануе адкрыць гандлёвы дом у Санкт-Пецярбургу, мясакамбінат "Трайпл-Велес" плануе нарошчваць аб'ём прадукцыі і іншыя.

На гэта Аляксандр Яхнавец адказаў:

– Трэба мець мужнасць і прызнаць: так, сёлета спрацавалі кепска. На гэта былі аб'ектыўныя прычыны, але шмат і суб'ектыўных. Нас падкасіла птушкафабрыка, якая ў стадыі ліквідацыі. Мы не дабралі больш за 30 мільярдаў рублёў з мяса птушкі. Дарэчы, намецюўся інвестар для птушкафабрыкі аб'ёмам дзве тысячы тон у месяц. У гэтым годзе мы будзем працаваць па-іншаму. З вобласці нам перадаюць бюджэт, і мы ўжо самі вырашаем, што будаваць і адказваем за гэта.

Старшыня Мінаблвыканкама **Сямён Шапіра** паведаміў, што па выніках сельскай гаспадаркі лідар па валавай прадукцыі сярод раёнаў Міншчыны атрымае 40 мільёнаў долараў на развіццё раёна. Раёны, што выканаюць 110% плана атрымаюць плюс 10% на бюджэт. Такія грошы дазволяць нам і дарогі пабудаваць, і школы, і садкі.

У 2013 годзе раён не дабраў падатак на прыбытак. Сёлетні бюджэт – дэфіцытны. Рост заробкаў бюджэтнай сферы праўдуць за кошт скарачэнняў на 20%. На рамонт і добраўпарадкаванне з бюджэту атрымліваюць адукацыя – 334 мільярды рублёў, ахова здароўя – 289, культура – 32, фізкультура, спорт і турызм – 10,3, сацыяльная палітыка – 32.

Яхнавец дадаў, што за паўгода павінны закончыць рамонт у другой раённай бальніцы. У 11-м мікрараёне плануюць запраектаваць дзіцячы садок-школу, будуць праводзіць капітальны рамонт дамоў.

Прадстаўніца аддзела гандлю і паслуг паведаміла, што летась кожны жыхар раёна патраціў 2,1 мільёна рублёў у аб'ектах рознічнага гандлю. Аднак не выконваецца план па рэалізацыі айчынных непрадуктовых тавараў: маладзечанцы аддаюць перавагу імпартнай бытавой тэхніцы.

У Бяніцы пасля навагодніх святаў павінна запрацаваць доўгачаканая мясцовымі жыхарамі крама.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

ШКОЛА

## Вучні "Логаса" запрашалі зіму

**ВІЛЕЙКА. Наша жыццёвая мітусня нарастае пад Новы год.**

Але прыходзіць тое імгненне, і мы міжволі пераўтвараемся ў дзяцей, зноў і зноў хочам пагуляць у хованкі са сваім сынам ці дачкой або змайстраваць з імі нешта незвычайнае, таемнае, навагодняе.

Ужо не першы раз сустракаем Новы год без снегу. А дзецям так хочацца пакатацца на санках і лыжах, зляпіць снежную бабу, пабудаваць замкі са снегу.

Вось удзельнікі гурткоў "Арыгамі" і "Умелыя рукі" і паспрабавалі сваімі работамі запрасіць зіму ў госці. "Снежны квілінг" – так назвалі выставу прац з паперы. Глядзіш на іх і здзіўляешся задумам вучняў: якія прыгожыя сняжынкі, ёлачкі, упрыгожванні да навагодняга свята. Ёлачкі лясныя ў снезе, ёлачкі навагоднія з упрыгожваннямі, ёлачкі, ёлачкі… А якія гурбы снегу каля лесу! Здаецца, дзе яны бачылі столькі снегу!

Нельга прайсці спакойна і каля выставы "Калядныя матывы". Тут і снежная баба з белых нітак і з паперы, і ёлачныя цацкі, і сама каралева-ёлачка. Дзіцячай фантазіі няма межаў! Усімі сваімі працамі вучні гімназіі №1 "Логас" як быццам клічуць у госці да сябе Зіму, якая нешта затрымліваецца і не радуе нас сняжком. Той, хто пабывае на трэцім паверсе гімназіі, надоўга запомніць феерверк зімовых уражанняў ад работ вучняў малодшых класаў.

**Алена МАЧЭЛЬ,**
**Вілейка.**
**Фота забяспечана аўтарам.**





Елка з паперы.





Снегавік.





Снежны квілінг.



 

СЯБРЫ НАШЫ МЕНШЫЯ

# Сабакі, якія не ведаюць сабачага жыцця...



Фота забяспечана Таццянай ЛЯЎЧУК.

Таццяна Ляўчук і рызеншнаўцар Ніагара Амадэус Лэнд.

**МАЛАДЗЕЧНА. Джэнтлі Борн Аўрум Блэк – гэта не назва курорта або хімічнага элемента. Гэта мянушка сабакі пароды рызеншнаўцар.**

Пра сабак-чэмпіёнаў свету, пра ўдзел у выставах і доглядзе за пародзістымі чатырохногімі сябрамі ў размове з адным з кіраўнікоў грамадскага аб'яднання аматараў жывёл "Вікторыя" **Таццянай Ляўчук.**

**– Таццяна, колькі людзей і сабак сёння аб'ядноўвае ваш клуб?**

– Клуб "Вікторыя" існуе дзесяць гадоў. Сёння нас, аматараў сабак, больш за 100 чалавек. Але і колькасць сабак, і колькасць людзей вагаецца. Нехта адыходзіць ад "сабачых інтарэсаў", нехта, наадварот, пашырае сваё кіналагічнае захапленне і адкрывае свае ўласныя гадавальнікі.

## Ёркшырскі тэр'ер – самая папулярная парода сабак у маладзечанцаў

**– Самая папулярная парода ў нас у горадзе якая?**

– Безумоўна – гэта ёркшырскі тэр'ер. Я думаю, што пальму першынства ў іх не хутка хтосьці адбярэ. Гэта маленькія сабачкі з сэрцам льва. Галоўнае слова ў назве пароды – тэр'ер. Я думаю, што іх энергія, вясёлы нораў, запал і азарт робяць іх хатнімі улюбёнцамі нездарма.

**– Сабаку якой пароды вы б параілі трымаць у гарадской кватэры?**

– Ведаеце, перш чым завесці сабаку ў кватэры, – трэба пачытаць характарыстыкі пароды, якая вам падабаецца, параіцца з людзьмі, якія ўжо трымаюць такіх сабак. У пачатку 90-х, калі пародзістыя сабакі хлынулі ў масы (калі так можна сказаць), трымалі нават "каўказцаў". Але сабака павінен выконваць свае функцыі: вартавы – ахоўваць, паляўнічы – паляваць. Таму для кватэры падыдуць сабакі невялікія.

Калі вы рашыліся завесці сабаку, будзьце гатовыя да таго, што яго трэба выхоўваць як дзіця. Ставіцца сур'ёзна і да догляду за поўсцю, і да лужынак маленькіх шчанюкоў, і да штодзённых шпацыраў у любое надвор'е.

## Сабачая мода – гэта міф

**– Прафесійныя заводчыкі сабак, што за людзі? Ахарактарызуйце іх, калі ласка.**

– Заводчыкі – гэта мэтанакіраваныя, захопленыя і ў нечым апантаныя людзі. Мужчыны ці жанчыны – розніцы няма. Праца заводчыка – гэта штодзённая праца, на якую паблажкі не распаўсюджваюцца: бальнічныя лісты, непагадзь, дрэнны настрой, святы і выхадныя. Захапленне гэта даволі дарагое, бо жывёлу трэба карміць і даглядаць за ёй.

**– Як вы ставіцеся да павальнага захаплення сабачай модай?**

– Мяркую, што тэрмін "павальнае захапленне" не зусім дарэчны. Ёсць сабакі, якія маюць патрэбу ў стрыжках (грумінгу), і ёсць людзі, якія гэта робяць. Звяртацца да прафесіяналаў у такой справе – гэта нармальна. А сабачая мода – гэта міф. Ёсць сабакі і ёсць гаспадар, які сабаку любіць, таму апранае яго ў адзенне адпаведна сезону або надвор'ю. Вось і ўся мода. У любым выпадку, гэта лепш, чым "выштурхоўванне" хатніх улюбёнцаў раніцай з пад'езда на дождж або проста на "вольны выпас".

**Касцюм на сабачку каштуе ў маладзечанскіх зоамагазінах 80 000 – 350 000. Шкарпэтачкі і боцікі абыдуцца ў 50-90 000.**

## Маладзечанскі цвергшнаўцар – юны чэмпіён свету

**– Як часта ў Маладзечне ладзяцца выставы сабак?**

– Выставы праводзім два-тры разы на год. Імкнёмся рабіць выставы вясной ці летам, каб была магчымасць выстаўляць сабак на свежым паветры. Бліжэйшая выстава нашага клуба плануецца на 11 мая. Запрошаныя суддзі-міжнароднікі з Грузіі, Польшчы і Беларусі.

**– А маладзечанскія сабакі прымаюць удзел у выставах іншых краін?**

– Як вы правільна заўважылі, калі праводзіш выставы ў сябе, неабходна ўдзельнічаць у выставах іншых клубаў як у Беларусі, так і за яе межамі. Кожны год нашы выхаванцы бяруць удзел у чэмпіянаце свету. Наш белы цвергшнаўцар Джэнтлі Борн Антарыя мае тытул юнага чэмпіёна свету і віцэ-чэмпіёна свету.

**Даведка "РГ". Цвергшнаўцар** – самы маленькі па памеры службовы сабака ў свеце. Першыя звесткі пра вывядзенне цвергшнаўцараў адносяцца да канца 1800-х гадоў. Раней яны разводзіліся ў Германіі як вясковыя сабакі, якія ахоўвалі свірны ад пацукоў і іншых паразітаў.

Яшчэ адзін наш сабака – рызеншнаўцар Джэнтлі Борн Аўрум Блэк – перамагаў у класах на двух чэмпіянатах свету ў Стакгольме і Браціславе.

**Даведка "РГ". Рызеншнаўцар** – самая буйная парода сабак з групы шнаўцараў. Першапачаткова рызеншнаўцар выкарыстоўваўся на поўдні Германіі як ахоўнік жывёл. У пачатку 18 стагоддзя ў Мюнхене рызеншнаўцары ахоўвалі піўныя бары і крамы мяснікоў. Пазней гэтых сабак сталі выкарыстоўваць у сваёй працы паліцэйскія і ваенныя.

**– Якія сабакі могуць удзельнічаць у выставе? І як падрыхтаваць сабаку да ўдзелу?**

– У выставе можа прыняць удзел любы сабака, які мае сертыфікат аб паходжанні (радавод), выдадзены кіналагічным аб'яднаннем, які ўваходзіць у міжнародную кіналагічную арганізацыю FCI. Вельмі часта даводзіцца выслухоўваць крыўды людзей, што прыйшлі з сабакам на выставу першы раз, зняўшы яго "з канапы", што іх сабак "засудзілі". Мы таксама не заўсёды выйгравалі, наверце. Але мы вучыліся, глядзелі, слухалі і рабілі высновы. Таму, калі вы вырашылі ўпершыню прыняць удзел у выставе, заўсёды звяртайцеся да спецыялістаў-кінолагаў. Або да нас у клуб – мы ўсё раскажам і пакажам.

**– Ці не думалі вы пра тое, што ёсць сабакі, якія больш маюць патрэбу ў дапамозе, чым дамашнія, выпешчаныя улюбёнцы?**

– Ідэя дапамагаць вулічным, кінутым жывёлам – старая як свет. Канешне, трэба дапамагаць. Але... Я ўспамінаю свой першы прыезд у Польшчу, тады звярнула ўвагу на поўную адсутнасць бадзяжных сабак. Потым, маючы зносіны з палякамі, я пачула, што ўсе кінутыя сабакі, калі трапляюць у прытулкі, спачатку апрацоўваюцца ад паразітаў. Там ім робяць прышчэпкі, потым стэрылізуюць, знаходзяць новых гаспадароў. На Захадзе ўсе гэтыя праграмы падтрымліваюцца дзяржавай, дабрачыннымі арганізацыямі. У нас гэтая тэма пакуль не развітая. На жаль. Але неабходна, каб такая праграма была і ў нас!

**– Ці цяжка трымаць і даглядаць пародзістых сабак?**

– Даглядаць неабходна любых сабак. Іх трэба расчэсваць, мыць, вадзіць да ветэрынара на прышчэпкі. Няма розніцы, пародзісты сабака ці не. Паверце, сабака – адзіная істота, якая любіць вас не за становішча, не за званне і дастатак, а за тое, што вы проста добры чалавек. Канешне, у пародзістых са1бак свае асаблівасці догляду. Мы, выбіраючы сабаку, пародзістага ці не, павінны ўсведамляць, што менавіта ў нашых сілах зрабіць яго сабакам сваёй мары.

**Наталля ТУР.**

| Курсы валют НБ РБ | 3.01 | 9.01 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| **Долар ЗША** | 9 520,00 | **9 530,00** |
| **Еўра** | 13 130,00 | **12 980,00** |
| **Злоты** | 3 161,37 | **3 105,09** |
| **Літ** | 3 798,05 | **3 755,67** |
| **Расійскі рубель** | 290,00 | **288,50** |
| **Грыўня** | 1 158,87 | **1 158,66** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| **Долар ЗША** | 9470/9650 | **9530/9620** |
| **Еўра** | 13050/13300 | **12950/13150** |

| Цэны на рынку (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | **30.12** | **8.01** |
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | **110100** | **110100** |
| **Сасіскі**, 1 кг | **45050** | **45650** |
| **Ялавічына**, (выразка), 1 кг | **75000** | **64900** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | **24500** | **25900** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | **28300** | **28000** |
| **Селядзец**, 1 кг | **32500** | **32600** |
| **Скумбрыя г/в**, 1 кг | **78000** | **107000** |
| **Рыс**, 0,7 кг | **9500** | **6500** |
| **Грэчка**, 0,7 кг | **8850** | **4900** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | **13000** | **13500** |
| **Алей** | **14800** | **11900** |
| **Маянэз**, 200 г | **5000** | **4200** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | **7000** | **7800** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | **28000** | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | **8000** | **9750** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | **6000** | **6500** |
| **Капуста**, 1 кг | **3500** | **4000** |
| **Морква**, 1 кг | **4500** | **5000** |
| **Буракі**, 1 кг | **4500** | **4500** |
| **Лімоны**, 1 кг | **19000** | **17000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | **14500** | **13500** |
| **Мандарыны**, 1 кг | **13500** | **18500** |
| **Памідоры**, 1 кг | **34000** | **25000** |
| **Агуркі**, 1 кг | **27000** | **39000** |
| **Перац**, 1 кг | **38000** | **35000** |
| **Вінаград**, 1 кг | **33000** | **25000** |
| **Бананы**, 1 кг | **15000** | **14000** |
| **Яблыкі**, 1 кг | **10000** | **8000** |
| **Грушы**, 1 кг | **14500** | **22500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | **12000** | **13000** |
| **Масла**, 1 кг | **75000** | **75000** |
| **Тварог**, 1 кг | **40000** | **40000** |
| **Бульба**, 1 кг | **4000** | **4000** |
| **Сала**, 1 кг | **65000** | **-** |
| **Мёд**, 0,5 л | **50000** | **50000** |

ПРАКУРАТУРА, СУД

# Забіў жанчыну, з якой сустракаўся

**АШМЯНЫ. Каля гадзіны ночы 23 чэрвеня каля вёскі Кракоўка К. пачаў рух заднім ходам на машыне "Фольксваген-Гольф" і наехаў на П., якая ад траўмаў загінула на месцы.**

К. парушыў дзевяць правілаў дарожнага руху.

### Як здарылася, не памятае

З загінулай П. ён пазнаёміўся сёмага сакавіка, яны разам працавалі. Пачалі падтрымліваць сувязь, з цягам часу завязаліся блізкія адносіны. Напярэдадні трагедыі разам праводзілі час. Каля 22 гадзін мужчына паехаў у вёску Кракоўка, каб сустрэцца з П. У вясковай краме сустрэў сяброўку жанчыны. Тая пазваніла П., але адказу не было.

Тады мужчына купіў бутэльку гарэлкі і выпіў шклянку ў машыне. Шукаў П, але яе нідзе не было. Вырашыў паехаць і па дарозе заўважыў каля крамы з сябрамі. Прапанаваў разам паехаць, і жанчына пагадзілася.

Праз некалькі хвілін ён сказаў, што выпіў. П. пачала плакаць і прасіць завезці яе дадому. К. завёў рухавік, але той запрацаваў на высокіх абаротах, і кіроўца яго заглушыў. Падняў капот, але не змог адрамантаваць няспраўнасць. Сказаў жанчыне, што нікуды не паедуць. Яна адказала, што пойдзе дадому пешшу, і выйшла з машыны. Фары не працавалі, таму ён не бачыў, куды пайшла жанчына.

Мужчына закурыў, пасядзеў. Заўважыў, што П. доўга няма. Выглянуў, паклікаў яе, але жанчына не адгукнулася. Што было далей, не памятае.

Ачуняў К. ужо ў кювеце, убачыў, што жанчына ляжыць каля пярэдняга бампера. Як здарылася трагедыя, ён не змог патлумачыць.

У ноч здарэння ён паведаміў супрацоўніку ДАІ, што прыехаў са сваёй жанчынай, яны пасварыліся, і тая выйшла з машыны. Паспрабаваў паехаць, і машыну сцягнула ў кювет.

Паводле меркавання эксперта, жанчына падчас удару сядзела на кукішках.

### Не хацела садзіцца ў машыну

Маці загінулай сказала ў судзе, што жыве з мужам і ўнукамі – дзецьмі П. Дачка распавядала ёй, што пазнаёмілася з мужчынам, які штодзень прывозіў яе з працы.

22 чэрвеня яны разам паехалі ў Смаргонь за пакупкамі. Потым яна ездзіла з К. купацца на возера. Пасля пайшла на дзень нараджэння стрыечнай сястры. Пра здарэнне даведалася па тэлефоне раніцай 23 чэрвеня.

Сяброўка, з якой К. сустрэўся ў краме, распавяла, што двойчы прасіла П. не ехаць з мужчынам, таму што ён быў п'яны.

Сведка Ф., разам з якой загінулая адзначала дзень нараджэння, распавяла, што яны размаўлялі, як раптам на высокай хуткасці пад'ехала машына, з якой выйшаў К. Ён стаў патрабаваць, каб жанчына села ў машыну, тая адмовілася. Тады адвёў П. убок, сказаў: "Садзіся, паехалі!" – і жанчына села ў машыну.

### Тармазы не працавалі

Машына, якая забіла чалавека, была няспраўная. Усе няспраўнасці кіроўца мог бачыць да пачатку руху. У "Фольксвагене" не працавалі ліхтары задняга ходу, сістэма рэгуліроўкі падачы паліва, з-за чаго рухавік працаваў на максімальных абаротах.

Машына была зарэгістраваная на іншага чалавека, але ў 2011 годзе яе купіў К. без перарэгістрацыі.

Тэхагляд новы гаспадар не праходзіў. Машына ездзіла нармальна, пакуль у той вечар не пачала працаваць на высокіх абаротах. Тармазы ў "Фольксвагене-Гольф" не працавалі, але К. спраўляўся з кіраваннем.

### Атрымаў тры з паловай гады

Суд па гэтай справе адбыўся ў снежні, які прызнаў яго вінаватым і прызначыў пакаранне ў выглядзе пазбаўлення свабоды на тры гады і шэсць месяцаў. Адбываць пакаранне абвінавачаны будзе ў выпраўленчай калоніі ва ўмовах пасялення. Ён пазбаўляецца права кіраваць усімі відамі транспарту на пяць год.

Яго будуць прымусова лячыць ад алкагольнай залежнасці.

Суд абавязаў яго за месяц выплаціць кампенсацыю маральнага шкоды сястры і маці загінулай – па 50 мільёнаў рублёў.

Асуджанаму К. 43 гады. Жанаты, мае дваіх дзяцей, раней не судзімы. Сваю віну цалкам прызнаў.

**Аляксандр ЛЯНКЕВІЧ,**
**старшы памочнік пракурора Ашмянскага раёна.**



Выпіў, сеў за руль. Гэта часта прыводзіць да страт, часам да смерці.

Фота 9rooms.ru

## Выселілі з дома, які заклаў за крэдыт ад банка

**МАЛАДЗЕЧНА. Атрымальніка крэдыту выселілі з тымі, хто жыў разам з ім.**

Суд па гэтай справе разглядалі летась.

Паміж банкам і грамадзянінам А. заключылі дагавор аб закладзе дома. Такім чынам банк забяспечваў своечасовую выплату крэдыту, які выдаў для А.

Аднак крэдыт своечасова не выплачваўся. Таму, паводле пастановы суда, накіравалі спагнанне на дом і прадалі яго на таргах новаму гаспадару Б. Новы ўласнік прапанаваў добраахвотна вызваліць ужо яго дом, але папярэдні ўласнік адмовіўся.

Б. звярнуўся ў суд, каб прымусова выселіць А. і тых, хто жыў з ім разам. Суд задаволіў просьбу і пастанавіў А. выселіцца без давання новага жылля.

Гэту пастанову былы ўласнік абскардзіў у судзе, аднак касацыйная інстанцыя пакінула рашэнне суда без змяненняў.

### Калі пазычаеце, думайце, як аддаваць

Гэты прыклад папярэджвае: перш чым звярнуцца ў банк па крэдыт, у тым ліку на набыццё жылля, дасканала пралічыце свой бюджэт і толькі тады пагаджайцеся на дамову.

Невыкананне крэдытных абавязацельстваў заўсёды цягне за сабой негатыўныя наступствы, аж да высялення.

### Высяляюць, не даючы новае жыллё

Новы Жыллёвы кодэкс, які ўступіў у сілу летась у сакавіку, замацаваў палажэнне, паводле якога ў выніку спагнання на жылое памяшканне, якое ў банкаўскім закладзе, права ўласнасці і права карыстання спыняецца з моманту дзяржаўнай рэгістрацыі правоў уласнасці. Выключэнне – грамадзяне, якія маюць права пажыццёвага карыстання закладзеным домам па завяшчальнай адмове.

Паводле 87 артыкула, пасля спынення права ўласнасці гаспадар разам з тымі, хто жыве з ім, павінны выселіцца без давання ім новага жылля. Такое высяленне можа праходзіць добраахвотна, у выніку адмовы пытанне вырашае суд.

**Дзяніс ГІРЛОЎСКІ,**
**памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

ЗДАРЭННІ

## Ад феерверку пацярпеў першакласнік

**МАЛАДЗЕЧНА.** 31 снежня хлопчык быў дастаўлены ў бальніцу з тэрмічнымі апёкамі павека і рагавіцы.

Здарэнне адбылося напярэдадні Новага года ў 19.00. Два браты 7 і 11 гадоў, вучні 1-га і 4-га класаў, забаўляліся з піратэхнікай на школьным стадыёне.

Старэйшы хлопчык запаліў "рымскую свечку" і неасцярожна скіраваў яе ў бок малодшага. Вогненны шарык трапіў першакласніку ў твар.

## Крадуць з гаражоў

**ВАЛОЖЫН.** У ноч на 5 студзеня невядомы, падабраўшы ключы, залез у гараж на вуліцы Горкага аднаго з жыхароў горада. Адтуль вынес пнеўмамалаток, дзве балгаркі, магнітолу і іншую маёмасць на агульную суму 7,6 мільёна рублёў. Узбуджаная крымінальная справа.

**Аддзяленне інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Мінаблвыканкама.**

## У Вілейцы злодзей пранік у гараж

**ВІЛЕЙКА.** У ноч з 4 на 5 студзеня невядомы пранік у гараж гаражнага-будаўнічага кааператыва №1 у Вілейцы.

Прыхапіў злодзей восем літых дыскаў да аўтамашын "Міцубісі" і "Мерседэс", а таксама саббуфер, дызельнае паліва, аўтамабільнае масла.

Гаспадару прычыненыя страты на суму амаль пяць з паловай мільёнаў рублёў, паведаміў начальнік аддзялення крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС **Дзмітры Антановіч**.

Узбуджаная крымінальная справа за крадзеж.

**Аддзел інфармацыі.**

## У калодзежы на Мядзельшчыне знайшлі цела жанчыны

**МЯДЗЕЛ.** Ноччу 28 снежня мядзельскім выратавальнікам паступіла паведамленне ад фельчара "хуткай дапамогі" Нарацкай участковай бальніцы.

Тая паведаміла, што патрэбна дапамога, каб выцягнуць цела з калодзежа ў вёсцы Брэскія.

Аказалася, што на тэрыторыі прысядзібнага ўчастка сын знайшоў цела 72-гадовай маці без прыкмет жыцця ў калодзежы глыбінёй паўтара метра.

**Па інфармацыі Мінскага абласнога ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях.**

СЛУЖБА 101

# Згарэў на пажары

**МАЛАДЗЕЧНА. На пажары згарэў гаспадар дома па вуліцы Лібава-Роменскай.**

Здарэнне адбылося 5 студзеня. А 18 гадзіне паступіла паведамленне пра тое, што гарыць прыватны дом па вуліцы Лібава-Роменскай.

Калі ратавальнікі прыбылі на месца здарэння, выявілі ў доме труп 62-гадовага гаспадара.

Прычыны пажару высвятляюцца, – паведаміла "Рэгіянальнай газеце" інспектар Дзяржпажнагляду аддзела па надзвычайных сітуацыях **Ксенія Цімафеева**.

Інспекцыя Маладзечанскага аддзела па надзвычайных сітуацыях нагадвае, што за мінулы, 2013, год у рэспубліцы на пажарах загінула 20 дзяцей, 12 з якіх засталіся дома без нагляду дарослых. Будзьце пільныя, думайце пра тое, што ў вашу адсутнасць, калі ў доме здарыцца бяда, ваша дзіця застаецца з бядой адзін на адзін. А зачыненыя на замок дзверы пазбаўляюць яго апошняга шанца на выратаванне. Бацькі, клапаціцеся пра сваіх дзяцей, ад вас залежыць іх жыццё.

**Наталля ТУР.**

СПАДЧЫНА

# На старых могілках хавалі мінчан

## Цяпер ракаўскія могілкі пад аховай дзяржавы



Фота К. Шастоўскага, radzima.org.

Брама на старых праваслаўных могілках у Ракаве.

**ВАЛОЖЫН. Грамадзянская ініцыятыва праз зборы подпісаў дамаглася рэальных вынікаў.**

– Знішчэнне старых ракаўскіх могілкаў 19 стагоддзя спынена! – пачынае зварот да ўдзельнікаў ініцыятывы арганізатар збору подпісаў даследчыца гісторычных могілкаў **Вольга Сямашка**. – Вашы сто подпісаў прынеслі не адпіску, а грунтоўную справаздачу ад Валожынскага райвыканкама і рэальны зрух справы. Ужо ўвесну мы распачнём валанцёрскую пашпартызацыю могілак. Запрашаем далучацца і просім кожнага звярнуць ўвагу на стан захавання старых могілкаў у сваім населеным пункце.

– Гэта добра, што ёсць такія нераўнадушныя людзі, – каментуе сітуацыю **Наталля Лоўчая**, дырэктар Валожынскага раённага краязнаўчага музея. – Адназначна гэтая ініцыятыва мае добрае і важнае значэнне. Раз могілкі набылі статус гісторыка-культурнай спадчыны, то наша справа – захаваць іх. Калі не мы, то хто? Заўвагі, якія былі напісаныя ў звароце, слушныя і своечасовыя. Гэта не значыць, што могілкі дагэтуль не даглядалі наогул. Каля галоўнага ўвахода была шыльда, на якой напісана, што хаваць людзей нельга. Але ўваходаў некалькі, таму нават не кожны б прачытаў гэтыя радкі. Ракаў недалёка ад Мінска, і некаторыя сапраўды лепш пахаваюць сваякоў на гэтых могілках, зыходзячы з эканамічнага пункту гледжання: каб не плаціць за месца. Нават па прозвішчах відаць, што новыя пахаваныя не з нашых мясцін. У дзень, калі мы прыехалі на могілкі з камісіяй, там хавалі чалавека. Цяпер жа з'явіцца агароджа, паставім стэнды з інфармацыяй пра забарону пахаванняў. Вельмі добра, што з'явіцца пасада ўпраўляючага могілкаў. Калі ёсць адказны чалавек – гэта многае значыць.

### З адказу райвыканкама:

Па факце пашкоджання гісторыка-культурнай каштоўнасці 19 стагоддзя "Комплекс старых праваслаўных могілкаў 19 стагоддзя" 23 снежня 2013 года была створаная камісія ў складзе:

**Марыны Ёды** – старшыні Валожынскага раённага Савета дэпутатаў;

**Валеры Пяркоўскага** – пракурора Валожынскага раёна;

**Анатоля Аліева** – начальніка аддзела ЖКГ Валожынскага райвыканкама;

**Вікенція Адамовіча** – начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Валожынскага райвыканкама;

**Наталлі Лоўчай** – дырэктара Валожынскага раённага краязнаўчага музея;

**Аляксандра Мякінкі** – старшыні Ракаўскага сельвыканкама.

У ходзе праверкі камісія выявіла:

уласнік – Ракаўскі сельвыканкам – падпісаў у 2011 годзе ахоўнае абавязацельства і праект зоны аховы гісторыка-культурнай каштоўнасці.

Тым не менш, маюць месца факты парушэнняў правілаў утрымання дадзенага аб'екта ў належным стане. Пацвердзіліся факты новых пахаванняў на месцах, дзе раней былі старыя надмагіллі (пахаванні не мясцовых жыхароў, а несанкцыянаваныя пахаванні жыхароў Мінска). Старыя надмагіллі не вывозілі, а адсоўвалі ў бок новых пахаванняў.

Камісія распрацавала меры для выпраўлення сітуацыі:

Устанавілі ахоўную дошку на аб'екце гісторыка-культурнай каштоўнасці. Рыхтуюць інфармацыйныя дошкі аб забароне хаваць тут памерлых, якія ўстановяць па перыметры могілак. Правялі мерапрыемствы па добраўпарадкаванні тэрыторыі могілак.

У самы бліжэйшы час службы жыллёва-камунальнай гаспадаркі ўвядуць пасаду ўпраўляючага могілкаў.

Разглядаецца пытанне аб ізаляванні тэрыторыі старых могілкаў ад новых пахаванняў (магчыма, установяць агароджу).

У адпаведнасці з Генеральным планам будаўніцтва аграгарадка Ракаў распрацоўваецца праектна-каштарысная дакументацыя пад месца для новых пахаванняў.

Старшыні Ракаўскага сельвыканкама **Аляксандру Мякінку** і дырэктару ЖКГ Валожынскага раёна **Аляксандру Каваленку** ўказалі на адказнасць у адпаведнасці з артыкулам 48 Закона "Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны", глава 19 "Адміністрацыйныя правапарушэнні ў сферы аховы гісторыка-культурнай спадчыны" Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях.

**Даведка РГ. Ракаўскія праваслаўныя (уніяцкія) могілкі.** Размешчаныя непадалёк ад трасы Мінск-Гродна ля новых праваслаўных могілкаў на пагорку. Уваход на могілкі абазначаны старой цаглянай брамай, упрыгожанай пяццю ўкарочанымі лапчатымі крыжамі.

Зоя ХРУЦКАЯ.

ТЭАТР

# Сяргей Карзей запрашае адсвяткаваць з ім 55

**МАЛАДЗЕЧНА. Святочны вечар у форме капусніка адбудзецца ў суботу, 18 студзеня, а 19 гадзіне.**

Акцёр Мінскага абласнога драматычнага тэатра **Сяргей Карзей** адзначыць 55-годдзе на сцэне. На выступленні гледачы пабачаць "нарэзку" з розных спектакляў, якія будуць займальна і часам смешна сплеценыя.

Сяргей Карзей у маладзечанскім тэатры ад 1999 года. Выконвае ролі Цімафея ў спектаклі "Сямейны партрэт з пабочнай асобай", Канферансье ў спектаклі "Бывай, канферансье!", Клод у спектаклі "Банкет", мужчына ў эпізодзе "Два пудзелі" спектакля "Чатыры навэлы пра каханне" і іншыя.

Інтэрв'ю з акцёрам Сяргеем Карзеем чытайце ў бліжэйшых нумарах.

Зоя ХРУЦКАЯ.









У кожнай ролі абсалютна розны, але ў кожным вобразе такі шчыры – акцёр Мінскага абласнога драмтэатра Сяргей Карзей. Фота забяспечана Мікалаем ДЗІНАВЫМ.

ВЫШУК

# Шукаюць 19-гадовага хлопца

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі райаддзел унутраных спраў шукае зніклага Анісімава Данілу Барысавіча, 22 студзеня 1994 года нараджэння.**



Нарадзіўся ў горадзе Омск у Расіі. Жыве ў Радашкавічах па вуліцы Гастэлы.

5 студзеня хлопец пайшоў з дому і дагэтуль невядома, дзе ён.

**Прыкметы:** 19 год, мажнага целаскладу, гарызантальныя плечы, круглы твар. Карыя вочы, малы прамы нос, валасы прамыя, цёмнарусыя, кароткая стрыжка. Звонкі голас і яснае маўленне.

**Быў апрануты** ў карычневую даўгаватую дублёнку, сінія джынсы, светла-шэрую байку з капюшонам, чорныя паўботы, чорныя шкарпэткі.

Шмат курыць, часам выпівае.

Перакануча просім усіх, хто што-небудзь ведае аб месцы знаходжання зніклага, паведаміць у Маладзечанскі райаддзел міліцыі па тэлефонах **8(0176)749683, 770312, 771656** ці па тэлефоне **102.**

Андрэй КАВАЛЁНАК, оперуўпаўнаважаны Маладзечанскага райаддзела міліцыі, старшы лейтэнант міліцыі.

ГІСТОРЫЯ

# Францішак Сяліцкі: **“Гэтай манаграфіяй прагну сплаціць доўг краіне”**


Фота http://westki.info

Францішак Сяліцкі.


Фота globus.tut.by

Траецкая царква ў Даўгінаве.

**ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ. Нядаўна адзначалася 90-я гадавіна з дня нараджэння прафесара Вроцлаўскага ўніверсітэта, філолага-славіста, этнографа Францішка Сяліцкага (1923-2001).**

Вось што ён пісаў пра сябе: “*Я нарадзіўся 29 лістапада 1923 года ў вёсцы Мікуліна Даўгінаўскай гміны Вілейскага павета і пражыў там да 20 чэрвеня 1941 года, амаль 18 гадоў. У 1968 годзе прыступіў да збірання і апрацоўкі фальклору з тамтэйшага краю, абапіраючыся на ўласныя ўспаміны і кансультуючыся з асобамі (сваякамі і знаёмымі), якія паходзяць з Віленшчыны*”.

У Польшчы Францішак Сяліцкі выдаў шмат этнаграфічна-фальклnetwork артыкулаў, некалькі кніг. Сярод іх “Даўгінаўска–Будслаўска–Крывіцкі рэгіён на даўняй Віленшчыне (гістарычная хроніка)”. У кнізе расказваецца пра гісторыю рэгіёна ў розныя часы: ад старажытнай гісторыі аж да 30-х гадоў дваццатага стагоддзя.

Пра прычыну напісання кнігі аўтар выказаўся так: *“Мне захацелася распрацаваць сучасныя нарысы гісторыі даўгінаўска–будслаўска–крывіцкага рэгіёна, цікавага з погляду свайго становішча на памежжы этнічна літоўскіх і беларускіх тэрыторый, на якія аказваўся таксама польскі ўплыў і, часткова, расійскі, што выявілася ў культуры і фальклоры тых мясцін.*

*Гэтай манаграфіяй прагну сплаціць доўг краіне, якая мяне выхавала. Адначасова жыве надзея, што сабраныя ў ёй матэрыялы зацікавяць тых даследчыкаў і чытачоў, якія таксама чулліва звязаныя з паўночна-ўсходнімі Крэсамі I і II Рэчы Паспалітай ці якіх прыцягвае сам феномен Крэсаў, гісторыя супольнага жыцця шмат стагоддзяў, асабліва культурнага, палякаў, літоўцаў і беларусаў на гэтых землях.*

Пераклаў кнігу з польскай на беларускую мову краязнаўца з Пастаў **Міхаіл Гіль**.

– Неяк былі ў Варшаве. У шапіку каля ўніверсітэта сябра заўважыў гэту кнігу, – прыгадвае ён. – Узяў у яго пачытаць і вырашыў перакласці.

У перакладзе Міхаіла Гіля і прыводзім вытрымкі з кнігі.

## Пра назву Даўгінава

У самым пачатку кнігі Францішак Сяліцкі прыводзіць некалькі версій, адкуль пайшла назва Даўгінава.

*“У ранні сярэднявеччы вілейская зямля належала балтыйскім плямёнам, аб чым сведчыць, між іншым, назва мястэчка Даўгінава. Гучыць яна, як славянская, тым больш, што на Беларусі сапраўды ёсць шмат вёсак з назвай Даўгінава, якія ў 17-м стагоддзі ў польскім вымаўленні гучалі Dolginow. Таксама на расійскай тэрыторыі былі вёскі з назвай Долгінов. Беларускі мовазнаўца В. Жучкевіч назву Даўгінава (па руску Долгиново) тлумачыць ад Доўгага сяла. Аднак прымушае задумацца тое, што сяляне з ваколіц мястэчка Даўгінава вымаўляюць яго назву цвёрда, нягледзячы на тое, што прыметнік даўгі меў у іх вымаўленні выключна мяккую форму. Усё гэта ўказвае на тое, што старажытнае паселішча мела калісьці ў сваёй назве балтыйскі корань daug, што на літоўскай мове значыць шмат, многа. Ёсць нямала літоўскіх мясцовасцяў з назвай Daugai, Daugielaiciai, Daugi. Латышы раку Дзвіна называюць – Daugava, а літоўцы – Dauguva. Такім чынам, бачна, што назва мястэчка, якая падлягае беларусізму, найперш прыняла форму Daugynawa, потым Dauhynawa, каб пазней атрымаць мяккую форму Dauhinawa (як некалі сяляне, як ужо зазначалі, так яшчэ і цяпер вымаўляюць гэту назву цвёрда: Dauhynawa).*

*Ёсць цікавая спроба акрэслення жыхарамі Даўгінава этымалогіі назвы свайго мястэчка. Вось хадзіла там у міжваенны час паданне, што на сучаснай тэрыторыі, якую займае мястэчка, былі калісьці тры паселішчы: Долбі–Нова, Юрыздыка і Саламянка. Долбі–Нова – гэта тая частка, у цэнтры якой цяпер знаходзіцца царква. Юрыздыка – гэта месца пры цяперашнім касцёле, а Саламянка – паўночная ўскраіна мястэчка. З часам гэтыя тры паселішчы злучыліся ў адно мястэчка Далгінуў, але гэта назва, прынамсі ў такой пададзенай форме, не зусім зразумелая, бо няма іншай бліжэйшай мясцовасці з назвай Долбі – Старыя, ці ўвогуле Долбі. Аднак не выключана, што тая назва паходзіць ад літоўскага слова dauba (роў, яр). Падобна на тое, што праз адну з вуліц мястэчка, напэўна, праходзіў глыбокі яр. Можа, такім чынам у перыяд першай фазы абеларушвання літоўцаў гэты яр называўся Daubynawa, а пазней тая назва пераўтварылася на Dauhynawa - Dauhinawa? Але і ў тым выпадку назва мела літоўскі генезіс”.*

## Мікуліна і тутэйшыя прозвішчы

Вядома, не мог аўтар абмінуць гісторыю сваёй вёскі:

*“Таму таксама відавочна паўстала назва нашай вёскі – Мікуліна. Яна паходзіць ад імя яе ўласніка Мікалая, званага ў тыя часы Мікула. Тая папулярная тады форма імя аднолькава ўжывалася як у беларусаў, так і ў рускіх і палякаў...*

*Цяперашнія жыхары Мікуліна не могуць згадаць паходжанне назвы сваёй вёскі таму, што імя Мікула ім невядомае (знікла ўжо ў 18 стагоддзі)...*

*Мушу заняцца тут яшчэ адной праблемай, звязанай з Мікуліным, а менавіта тым, што тры чвэрці жыхароў вёскі насілі перад вайной прозвішча Сяліцкіх. Падобныя вёскі з жыхарамі з аднолькавымі прозвішчамі сустракаліся на Віленшчыне даволі часта, аднак жа гэта былі вёскі шляхецкія; тым часам у Мікуліне ад пачатку жылі прыгонныя сяляне. Паходжанне гэтага прозвішча зручнае да расшыфроўкі: яно паходзіць ад дзеяслова сяліці ці асядлаць. Гэта прозвішча павінны былі даваць тутэйшым сялянам жыхары суседніх вёсак, якія існавалі перад стварэннем Мікуліна. У тым месцы калісьці была даўгінаўска-будслаўская пушча, відавочна, што Мікула атрымаў надзел у той пушчы і засяліў там сялян, што паходзілі з іншай мясцовасці, якіх з мэтай іх адрознення пачалі называць “сяліцкімі”, бо пасялілі іх на “селішчы” (нагадаем прыкладзены дакумент А. Банецкага, у якім была размова аб “Селішчы ў лесе”). Гэта адбывалася яшчэ ў часы, калі сяляне не мелі прозвішчаў, а больш праўдападобна ў 15-м стагоддзі. З часам атрыманая такім чынам мянушка жыхароў Мікуліна стала іх прозвішчам. Аднак тыя перасяленцы мусілі быць каталікамі і былымі ліцвінамі, паколькі, як ужо зазначалі, вёска ад пачатку і цалкам была каталіцкай.*

*Іншыя прозвішчы жыхароў Мікуліна – Савіцкія, Любнеўскія, Карповічы, Рамаwoўскія – указваюць на пазнейшае засяленне іх у Мікуліне, у часы, калі сяляне таксама ўжо насілі прозвішчы, а менавіта ў 16 – 17-м стагоддзях. Трэба таксама падкрэсліць, што Савіцкіх, Любнеўскіх, Карповічаў і Раманоўскіх было шмат у суседніх вёсках. Іх паходжанне, можа, акрамя Савіцкіх, беларускае, але яны былі каталікі з дзеда-прадзеда, а значыць, таксама экс-ліцвінамі, збеларусізаваныя ў 15 – 16-м стагоддзях (у Невінянах былі таксама Карповічы праваслаўныя). Разгледзім яшчэ іншыя прозвішчы вяскоўцаў тутэйшых ваколіц, высветлім паходжанне іх гаспадароў. У Даўгінаве, Вітоўцах, Заложыне, Стахах і Пагосце шмат было Ляшковічаў. Гэта прозвішча выдае колішняе польскае паходжанне іх продкаў, яно ўтворанае ад слова Лях, Ляшко, Лешка. Можа, гэта былі папярэднія польскія палонныя, пра якіх узгадвалі вышэй.*

*У Даўгінаве і навакольных вёсках таксама было шмат Дубаневічаў, пераважна каталікоў, хаця было таксама пару сямей праваслаўных. Паходжанне гэтага прозвішча цяжка ўстанавіць. Тут напрошваецца да інтэрпрэтацыі беларускага кораня дуб, але незвычайны суфікс да яго – ан (звалі Дубаневічаў – Дубані). Можа, паходзіць гэта прозвішча ад згаданага раней літоўскага слова dauba (якое азначае роў, яр). Цяжка гэта вырашыць. Затое з поўнай упэўненасцю можна сказаць, што прозвішча Кішкурна, якое сустракаецца ў Вітоўцах і іншых вёсках, пацвярджае яго літоўскае паходжанне (на літоўскай мове яно азначае заяц), падобна як прозвішчы Батвілоўскі, Алковіч, Шакаліс, Шышла, Жыжла, Мажэйка ці Ягела (у Даўгінаве такія прозвішчы насілі некалькі сем’яў”).*

**Падрыхтаваў Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Працяг у 4-м нумары.**

**ГРУЗАПЕРАВОЗКІ**

- Мерседэс, да 1,8 т., 20 м.куб., дастаўка невялікіх грузаў, пасылак у/з Масквы, пастаянна ў/з Мінска. ІП Грыгор'еў В.В. УНП 191095797. Т. (8-029) 6170745, (8-029) 7570745, Уладзімір.*
- Тэнт, да 5 т. ПТУП "Саліра". УНП 691506727. Т. (8-029) 7787574.*

**ІНШЫЯ ПАСЛУГІ**

- Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў: падмурак, кладка, дах, аддзелка любой складанасці і інш. ПП "АлексДом". УНП 690550072. Т. (8-0176) 745851, (8-029) 7768262, (8-029) 8797481.*
- Выраб і ўстаноўка між паверхамі лесвіц, з натуральнага дрэва, сталярна-цяслярныя работы. ІП Клаўсюк А.А. УНП 691512274. Т. (8-029) 7792477.*
- **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапамажа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*
- **ДЭМАНТАЖ, МАНТАЖ** сантэхнічнага абсталявання і ацяплення. Зварка, пайка. ІП Пешчанкоў С.В. УНП 691515088. Т. МТС (8-029) 5639304.*
- **ПРАКАТ УПРЫГОЖВАННЯЎ НА АЎТО.** Святочнае афармленне залаў шарамі і тканінамі. Магазін "Фіеста", г.Маладзечна, вул.Валынца, 7. ЧТП УП "Мір Дачніка". УНП 690237633. Т. (8-0176) 749602, МТС (8-029) 2280154, Вэлком (8-029) 1784037.*
- Стужкі для выпускнікоў ад 9 да 20 тысяч. Арганізуем выпускны. Магазін "Фіеста", г.Маладзечна, вул.Валынца, 7. ЧТП УП "Мір Дачніка". УНП 690237633. Т. (8-0176) 749602, МТС (8-029) 2280154, Вэлком (8-029) 1784037.*
- Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*
- Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*
- **ШОУ** клоўна – дзіцячыя святы, дні нараджэння, віншаванні і іншае. Спяшайцеся зрабіць падарунак - парадыйнае шоу роставых лялек для дарослых на вяселлі, юбілеі, навагоднія карпаратывы. Віншаванні Дзеда Мароза і Снягуркі. ІП Кананові́ч І.Е. УНП 691501156. Т. (8-029) 8596692.*

## РОЗНАЕ

**ПРАДАЕЦЦА**

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

- Бетонамяшалкі. Катлы. Печы. Воданагравальнікі. Помпы. Сантэхніка. Ацяпленне. Сайт 940.BY. ІП Глінскі М.М. УНП 190337652. Т. (8-029) 2599940.*
- Бойлер пад кацёл "Уют", б/у. Т. (8-029) 1360625.*
- Кацёл КСТГ 12,5 з газавай устаноўкай, б/у. Т. (8-029) 1360625.
- Рухавік на мотаблок МТЗ Honda 9,0 к.с. з перахаднікам. Т. (8-029) 3809617.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

- **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ «ТРЫКАЛОР» – СКІДКІ! АКЦЫЯ! ЛІЧБАВЫЯ ПРЫЁМНІКІ АД 350000 РУБ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. **Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.***
- **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ.** Абаненцкай платы няма! Растэрміноўка без працэнтаў. ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. Т. (8-029) 7627898.*
- **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ.** Высокая якасць адлюстравання. Гарантыя. ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413.Т. (8-029) 3326779.*
- **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ.** Кантроль якасці. Т. (8-029) 5702212.*
- **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ.** Трыкалор. Т. (8-029) 9056393 Вэлком.*
- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, HD.** Растэрміноўка без %. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*
- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, ЛІЧБАВЕ ТБ.** Растэрміноўка без % да 12 месяцаў. ГД "Тройка", п. 536. ПГУП "Ліцераль". УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320, **www.literal.deal.by***

**Мэбля**

- Стол більярдны, б/у, добры стан. Т. (8-029) 6666855.*
- Спальня "Мара", б/у, добры стан. Т. (8-029) 6666855.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

- Каза высокаўдойная пакрытая. Т. (8-01771) 44651.*

**ІНШАЕ**

- Мяса трусоў і маладняк. Т. (8-029) 7628438.*

**КУПЛЮ**

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

- Плуг 3-корпусны. Т. (8-044) 7306994.

**Музінструменты**

- Акардэон (Германія). Т. (8-029) 1439224.*

**Антыкварыят**

- **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 765542, (8-029) 6564854.*
- **СТАРАЖЫТНЫЯ** карціны, іконы, манеты і іншае. Т. (8-029) 8719950.*
- **АНТЫКВАРЫЯТ ЛЮБЫ.** Прыеду да вас. Т. МТС (8-029) 7764214.*

**Іншае**

- 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*
- Балон кіслародны, вуглекіслотны. Т. (8-029) 8466093.*
- Скуркі куніцы, пясца, лісы. Т. (8-029) 8552646.*

**ЗГУБЛЕНА**

- Згублены дыплом на імя Фармага Рамана Рыгоравіча, які ў 2001-2004 гг. вучыўся ў Маладзечанскім гандлёва-эканамічным каледжы Белкаапсаюза, лічыць несапраўдным.

**ІНШАЕ**

- Свяцільні, датчыкі, провад, кабель, рукаў металічны, труба гафрыраваная ПВХ, выключальнікі, разеткі і многае іншае рэалізуе магазін электраўстановачных вырабаў "Ампер" па адрасе: г. Вілейка, вул. 17 Верасня, 29, будынак "Дом Быту", 1 паверх. Наяўны, безнаяўны разлік. Індывідуальны падыход да кожнага кліента. ІП Малыш В.С. УНП 691167947.
- Шукаю спадарожнікаў у Хмяльніцкі, Беласток. Т. (8-033) 6344827, (8-029) 9491773.*

## ПРАЦА

**ШУКАЮ РАБОТУ**

- Аздабляльніка (усё, акрамя пліткі). Т. (8-029) 3605806.
- Якаснае аздабленне кватэр, дамоў, столі пад афарбоўку, шпаклёўка, шпалеры і г.д. ІП Скуратовіч С.С. УНП 691507287. Т. (8-029) 2501031.*

**ПАТРАБУЮЦЦА**

- Прадавец-кансультант для продажу дэкаратыўна-прыкладной касметыкі. ТАА "АЛБітранс". УНП 691336507. Т. Вэлком 3400464.

ВЕДАЙ НАШЫХ

## Пераможца конкурсу "Адна зямля" выступіць у фінале "Еўрабачанне-2014"

**ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА. 8 студзеня адбылося лёсаванне Нацыянальнага адборачнага тура Міжнароднага конкурсу песні "Еўрабачанне-2014".**

Спявачка Дарыя (Дар'я Урызчанка) выступіць у фінале пад нумарам "шэсць".

Фінал Нацыянальнага адборачнага тура Міжнароднага конкурсу песні "Еўрабачанне-2014" адбудзецца 10 студзеня. Шоу пачнецца ў 22.00 і будзе транслявацца ў прамым эфіры на тэлеканалах "Беларусь 1" і "Беларусь 24", а таксама ў рэжыме анлайн на сайце ЕВС www.eurovision.tv.

Летась Дарыя таксама выступала ў фінале нацыянальнага адборачнага тура "Еўрабачання".

Дар'я нарадзілася ў горадзе Слуцку. Затым разам з бацькамі пераехала ў Вілейку. З пяці год займалася харэаграфіяй, марыла стаць балерынай, а ў сем паступіла ў музычную школу.

Паралельна дзяўчынка вучылася ў матэматычным класе, але пазней сканцэнтравалася выключна на музыцы і пасля заканчэння музычнай школы паступіла ў Маладзечанскае музычнае вучылішча.

У 2000 годзе Дарыя Урызчанка заваявала Гран-пры рэгіянальнага конкурсу эстраднай песні "Адна зямля".

**Аддзел інфармацыі.**



КОНКУРСЫ

# Названыя найлепшыя ў навагоднім афармленні

**МЯДЗЕЛ. У раёне падвялі вынікі агляду-конкурсу "Чараўніцтва пад Новы год". У ім ацэньвалася навагодняя афармленне прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў, вуліц, дваровых тэрыторый.**

У сваіх намінацыях перамаглі Княгінінская газанапаўняльная станцыя, НДЦ "Зубраня", ААТ "Будслаўскае", Свірскі сельскі выканаўчы камітэт, гімназія-інтэрнат Мядзела. Падворак найлепш упрыгожыў **Генадзь Бойка** з вёскі Нарач (Кабыльнік).

Пераможцаў адзначаць дыпломам і грашовай прэміяй у 910 тысяч рублёў. Вызначылі таксама прызёраў конкурсу.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота забяспечана Аляксеем ВЫСОЦКІМ.

УЛАДА

# Праблемы жыхароў Вілейшчыны вырашаў Сямён Шапіра

**ВІЛЕЙКА. 4 студзеня ў Вілейскім райвыканкаме прыём грамадзян правёў старшыня Мінскага аблвыканкама Сямён Шапіра.**

Значная частка пытанняў, якія паступілі ад грамадзян, была звязаная з ацэнкай кошту прыватных жылых дамоў, паведамляе БЕЛТА.

Жыхар Даўгінава звярнуўся да кіраўніка вобласці з пытаннем аб газіфікацыі жылых дамоў у населеным пункце. Старшыні аблвыканкама далажылі, што для газіфікацыі аграгарадка неабходна пракласці газаправод высокага ціску першай катэгорыі працягласцю 16 кіламетраў. Кошт гэтых работ складзе 17 мільярдаў беларускіх рублёў. Аднак Мінскаблгазу, які ажыццяўляе газіфікацыю населеных пунктаў Мінскай вобласці, выдзелена на правядзенне такой дзейнасці ў 2014 годзе ўсяго 5,3 мільярда рублёў.

Сямён Шапіра адзначыў, што, акрамя магчымасці правесці ў населеныя пункты газ з дапамогай газаправодаў, ёсць і іншыя, больш простыя і прымальныя, варыянты. Іх таксама неабходна разгледзець. *"Гэтае пытанне будзе на маім асабістым кантролі. Я вывучу яго больш глыбока, а таксама пагавару аб магчымых спосабах вырашэння праблемы з прадстаўнікамі газавай галіны", – сказаў Сямён Шапіра.*

Акрамя таго, жыхароў Вілейскага раёна цікавілі пытанні, звязаныя з перапланіроўкай кватэр, купляй жылля. *Сямён Шапіра выслухаў кожнага заяўніка і даў адпаведныя даручэнні.*

**Паводле БЕЛТА.**

МУЗЫКА

# Падарунак для чысцінцаў ад ансамбля "Забудова"

**МАЛАДЗЕЧНА. Ансамбль "Забудова" разам са спявачкай Ганнай Шаркуновай прынялі ўдзел у навагоднім выпуску музычнага праекта "Харашоу" на тэлеканале СТВ.**

4 снежня ў мінскім Палацы спорту прайшлі здымкі навагодняй праграмы "Харашоу". На сцэну выйшла дзесяць калектываў беларускіх прадпрыемстваў з розных гарадоў, сярод якіх былі і артысты Чысцінскага сельскага Дома культуры.

Па прапанове медыяхолдынгу "Карамболь" у шоу ансамбль "Забудова" выканаў дзве кампазіцыі: "Don't speak" гурта "No Doubt" і "Кабы не было зімы" з усімі вядомага мультфільма "Зіма ў Прастаквашыне".

З самай раніцы артысты прыехалі ў Палац спорту, дзе іх адразу адправілі да грымёраў. Удзельнікаў больш за сотню, таму часу на падрыхтоўку вельмі мала. Не больш за 15 хвілін доўжылася рэпетыцыя. Тут калектыў і сустрэўся са сваім куратарам на час здымак – Ганнай Шаркуновай. Затым пачалося доўгае і хвалюючае чаканне сваёй чаргі на запіс, якая цягнулася амаль да апоўначы.

У грымёрнай ансамбль "Забудова" пазнаёміўся з удзельнікамі Ваўкавыскага калектыву "Беллакт". Разам яны падтрымлівалі адзін аднаго цягам здымак. Яшчэ артысты змаглі сфатаграфавацца з такімі зоркамі беларускай эстрады, як Жанет, Іна Афанасьева, а таксама з прадзюсарам Уладзімірам Кубышкіным.

Канчатковыя вынікі здымак навагодняга шоу гледачы ўбачылі вечарам 1 студзеня. Па словах удзельнікаў Чысцінскага калектыву, многія са знаёмых і блізкіх тэлефанавалі артыстам падчас трансляцыі перадачы і давалі толькі станоўчыя ацэнкі, што вельмі важна для кожнага ўдзельніка ансамбля.

Зрэшты, для "Забудовы" гэта не першы досвед запісу на тэлебачанні. Некалькі гадоў таму калектыў з Чысці ўдзельнічаў у музычным праекце "Песні маёй краіны" на тэлеканале АНТ.

**Юлія АРАНОЎСКАЯ, кіраўнік Клуба журналістыкі Чысцінскага СДК.**

АФІЦЫЙНА

# Новыя тэхнічныя рэгламенты ўступаюць у сілу сёлета

**Тэхнічныя рэгламенты Мытнага саюза распрацаваныя для ўстанаўлення адзіных, абавязковых патрабаванняў да прадукцыі, якую выпускаюць на тэрыторыі Беларусі, Казахстана і Расіі.**

**У 2014 годзе уступаюць у сілу новыя Тэхнічныя рэгламенты Мытнага саюза:**

- ТР МС 032/2013 "Аб бяспецы абсталявання, якое працуе пад ціскам" – ад 01.02.2014,
- ТР МС 030/2012 "Аб патрабаваннях да змазачных матэрыялаў, аліваў і спецыяльных вадкасцяў" – ад 01.03.2014,
- ТР МС 033/2013 "Аб бяспецы малака і малочнай прадукцыі" – ад 01.05.2014,
- ТР МС 034/2013 "Аб бяспецы мяса і мяснай прадукцыі" – ад 01.05.2014,
- ТР МС 025/2012 "Аб бяспецы мэблевай прадукцыі" – ад 01.07.2014,
- ТР ТС 028/2012 "Аб бяспецы выбуховых рэчываў і вырабаў на іх аснове" – ад 01.07.2014,
- ТР МС 001/2011 "Аб бяспецы чыгуначнага рухомага саставу" – ад 02.08.2014,
- ТР МС 002/2011 "Аб бяспецы высакахуткаснага чыгуначнага транспарту" – ад 02.08.2014,
- ТР МС 003/2011 "Аб бяспецы інфраструктуры чыгуначнага транспарту" – ад 02.08.2014.

Аддзел дзяржнагляду Маладзечна інспекцыі Дзяржстандарту па Мінскай вобласці нагадвае ўсім зацікаўленым прадпрыемствам і індывідуальным прадпрымальнікам, што часу для падрыхтоўкі да работы ў адпаведнасці з патрабаваннямі тэхнічных рэгламентаў засталося зусім мала і ўсе пытанні трэба вырашаць загадзя, каб пазбегнуць цяжкасцяў, якія ўзнікаюць у гандляроў лёгкай прамысловасці.

**Алена КАРЦАВА, галоўны дзяржінспектар інспекцыі Дзяржстандарту па Мінскай вобласці, аддзел дзяржнагляду Маладзечна.**




Фота забяспечана Ягорам ЖЫХАРАВЫМ.

Экспедыцыя міжнароднага экіпажа з Алегам Навіцкім ( у цэнтры дагары нагамі) передае прывітанне з арбіты.

# Здымкі маладзечанскага лесу былі ў космасе

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанец Ягор Жыхараў доўгі час захапляецца космасам. Нашай газеце ён распавёў пра сваё знаёмства з касманаўтам Алегам Навіцкім і пра тое, як здымкі Маладзечаншчыны, што зрабіў Алег, трапілі на арбіту.**

– Космас – маё даўняе захапленне. Ну хто з нас у дзяцінстве не марыў быць касманаўтам? Калі я даведаўся, што беларус Алег Навіцкі залічаны ў атрад касманаўтаў, я стаў пільна сачыць за падрыхтоўкай Алега да палёту.

### Фота Маладзечаншчыны – у космас

– Жонка Алега Навіцкага, **Юлія Навіцкая**, увесь час, пакуль муж быў у космасе, вяла свой блог у інтэрнэце. Аднойчы яна напісала, што Алег у космасе марыць пабачыць фотаздымкі менавіта беларускага лесу. Мінулай зімой я якраз хадзіў на лыжах па ваколіцах Маладзечна, зрабіў фотаздымкі і перадаў праз Юлію Алегу. Як потым прызнавалася Юлія, для Алега было вельмі важным тое, што гэтыя фотаздымкі зробленыя на ягонай роднай беларускай зямлі.

**– Алег Навіцкі наш зямляк?**

– Алег нарадзіўся і вырас ў Чэрвені, потым паехаў у Расію, але пры кожнай магчымасці прыязжае да сваёй маці, якая па-ранейшаму жыве ў Чэрвені. У нас Алег пакуль не быў, але на сустрэчы, якая адбылася першага лістапада ў Мінску, я запрасіў яго ў Маладзечна. Хочацца спадзявацца, што ў хуткім часе Алег наведае наш край.

**– Ці падзякаваў вам Алег Навіцкі за фотаздымкі?**

– У той жа дзень, калі касманаўт пабачыў фотаздымкі, Алег папрасіў Юлію перадаць мне прывітанне. А пасля, калі мы сустрэліся з Алегам, ён падарыў мне фотаздымак з аўтографам.

**– Як вы пазнаёміліся з Алегам Навіцкім.**

– Першая наша сустрэча адбылася 21 чэрвеня 2012 года ў Нацыянальным мастацкім музеі на выставе знакамітага беларускага скульптара Івана Міско, які лепіць бюст Алега Навіцкага. На гэтай жа сустрэчы я запрасіў Алега наведаць з візітам мінскі планетарый і музей авіяцыі на Баравой.

**– Ці расказваў вам Алег, як касманаўты праводзяць час у космасе?**

– Экспедыцыя ў космасе, у якой быў Навіцкі, доўжылася паўгода. Вядома, гэта вельмі цяжка. Таму там, у космасе, ёсць сувязь з зямлёй. Касманаўты звязваюцца з псіхолагамі, існуе там і прыватная лінія для сувязі з сям'ёй. Акрамя таго, у касманаўтаў ёсць магчымасць выходзіць у інтэрнэт, у іх ёсць свае старонкі ў "Аднакласніках", ў "Фэйсбуку". Была ў той экспедыцыі і гітара, на якой іграў адзін з касманаўтаў. 2013 год сустракалі ў космасе. Была там і ўпрыгожаная ялінaчка, і шкарпэткі для падарункаў. Усё як на зямлі, толькі ў бязважкасці.

### Беларусь можна разглядзець з космасу

**– Што для вас самога было дзіўным з таго, што даведаліся пра космас ад Алега ці наогул?**

– Самае цікавае тое, што з арбіты міжнароднай касмічнай станцыі, якая ляціць з хуткасцю 28 тысяч кіламетраў у гадзіну на вышыні 400 кіламетраў, можна разгледзець, па расказах касманаўтаў, паверхню нашай планеты з дапамогай фотатэхнікі. Літаральна відаць хвалі на ўзбярэжжы Новай Зеландыі. Зачароўваюць шматлікія маланкі і палярныя ззянні. На сайце www.stormway.ru можна ў рэальным часе назіраць, што адбываецца на касмічнай станцыі. Над нашай краінай яна пралятае ў раёне шасці-сямі раніцы і ўвечары пасля сямі гадзін. Так што, калі моцна захацець, можна ўбачыць Беларусь з космасу.

### Зноў у палёт – праз два гады

**– Я ведаю пра тое, што вы ладзілі з Алегам Навіцкім сустрэчу ў мінскім планетарыі. З якой нагоды яна праводзілася?**

– У канцы кастрычніка мне прыйшоў ліст з Зорнага Гарадка ад Алега Віктаравіча з прапановай сустрэцца з аматарамі астраноміі ў мінскім планетарыі і таксама вельмі хацелася пазнаёміцца з музеем авіяцыйнай тэхнікі на Баравой. Для мяне тады пачаўся хвалюючы тыдзень арганізацыйных мерапрыемстваў. Бо для мінскага планетарыя гэта была сапраўды гістарычная сустрэча з касманаўтам, які некалькі месяцаў таму, у сакавіку, толькі вярнуўся з космасу.

1 лістапада ў 15 гадзін 22 хвіліны я сустрэў Алега і Юлію Навіцкіх у парку Горкага. Разам з ім прыехаў народны мастак Беларусі **Іван Міско**, які рыхтуе скульптурны праект для алеі на вуліцы касманаўтаў у Мінску. Алег прыехаў у сваім лётным касцюме з шаўронамі місій 33 і 34 экспедыцыі. Алег Віктаравіч і Юлія вельмі адкрытыя і добрыя людзі, якія жывуць і працуюць разам з героямі і заваёўнікамі космасу. Алег, на мой погляд, і па характары, і па любові да малой радзімы – сапраўдны беларус. Ён казаў, што касманаўт можа і павінен быць прыкладам таго чалавека, які можа нарадзіцца нават ў маленькім мястэчку і дасягнуць у сваёй прафесіі вяршыняў. Алег распавёў нам, што прайшоў новую камісію і яго наступны палёт можа адбыцца праз 2 гады.

Калі Алег пакідаў планетарый, над паркам Горкага гучала песня "Трава ля дома". Мне падалося гэта невыпадковым.

**– Ці працягваеце вы цяпер знаёмства з Алегам? Калі размаўлялі апошні раз?**

– Я віншаваў ў кастрычніку Алега з днём нараджэння. Часам дасылаю Алегу фота з Беларусі. Напрыклад, здымкі са 100-гадовага юбілею ваеннага аэрадрома ў Лідзе. Галоўнае для мяне – гэта прыцягнуць увагу да касманаўтыкі і астраноміі нашу моладзь. У апошні раз, але ў авіяцыі прынята казаць крайні, я размаўляў з Алегам другога лістапада, гаварылі мы з ім пра музей авіяцыі.

**– А Маладзечаншчыну працягваеце здымаць? Ці ёсць шанец маладзечанскім фотаздымкам трапіць у космас яшчэ раз?**

– Канешне, і працягваю здымаць, і спадзяюся на тое, што здымкі трапяць у космас. Бо ўсё толькі пачынаецца!

**Наталля ТУР.**

ДА 100-ГОДДЗЯ ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

# Гарматы ператварылі Крэва ў друз...

## З успамінаў ксяндза Міхала Сапоцькі пра наступленне немцаў у 1915 годзе на тэрыторыі нашага краю – Павілля



Фота зафіксавана Яўгеніяй ЧАПЛІНСКАЙ.

Каталіцкі святар Міхал Сапоцька.

**...У Шумску даведаліся аб узяцці немцамі Коўна. Вестка гэта выклікала прыгнечанае ўражанне.**

Вяртаючыся дамоў, на дарозе ў Медніках спаткалі рускія войскі і абозы, а 12 жніўня на дарозе сустракаліся людзі, што ўцякалі ад вайны, 13-га ўсе дарогі ўжо былі заваленыя так, што да Тургель, куды я ехаў спавядаць дзяцей, мусіў прабірацца полем.

Уцякалі ў большасці стараверы, хаця сустракаліся і католікі. Гналі перад сабой жывёлу і везлі, што маглі забраць на калёсы. Ехалі хутка – як бы ўцякалі ад пагоні. Грукат калёсаў, рыканне быдла, плач немаўлятак, смутак матак і агульная трывога стваралі цяжкае ўражанне.

14 жніўня пачуліся стрэлы, а пад вечар убачылі абозы.

Бежанцы і караваны абозаў цягнуліся ўжо і прасёлкавымі дарогамі, што прадказвала хуткае набліжэнне немцаў. Афіцэры, якія спыняліся на начлег, папярэджвалі аб здзеках казакоў ар'ергарда. У апошніх днях жніўня колькасць бежанцаў зменшылася, але часцей пачалі праходзіць абозы і затрымлівацца на ноч.

Аднойчы, вяртаючыся з урока французскай з Асьцюкоўшчыны, не мог прайсці праз дарогу, занятую вазамі з ваеннай амуніцыяй. Я быў здзіўлены частымі пытаннямі, якія задавалі салдаты: "Куды вядзе дарога?", "Як завецца гэта мястэчка?" Нават палкоўнік, які камандаваў абозам, пытаўся пра дарогу да вёскі Даўкшышкі. Што раз бліжэй чуваць былі гарматныя выстралы. Многія жыхары падаліся ў Вільню, якая мелася здацца без баёў.

Затое з Вільні вырушыла цэлая армія чыноўнікаў, паліцыянтаў і начальнікаў розных устаноў, якія цэлымі днямі 4-га і 5-га верасня перабіраліся пешкі па балоце праз Табарышкі ў напрамку Гальшанаў. Многія са знаёмых хацелі ўцякаць разам з іншымі, я ж сказаў, што, не зважаючы на пагрозу для жыцця, застаюся на сваім месцы, гэтым стрымаў і іншых ад уцёкаў.

5-га верасня страляніна ўзмацнілася, уцекачы з Вільні перапоўнілі ўсе дарогі. Большасць цягнуліся пехатой, больш заможныя ехалі, аўтамабілі гразлі ў балоце. Вечарам затрымаўся абоз, падобна што апошні. У плябаніі заначавалі два афіцэры, расказвалі пра баі пад Коўнам, частаваліся гарэлкай і пасля сытнай вячэры спакойна праспалі ўсю ноч.

У нядзелю цэлы дзень прабыў у касцёле. Казалі, што ў час набажэнства адступаў расійскі ар'ергард, абарваныя, згаладалыя рабавалі ўсё, што толькі маглі. На наша шчасце, мінулі нас казакі. У час вячэрні чулі ўжо зусім блізкія гарматныя залпы і нават вінтовачныя выстралы. Пасля вячэрні людзі як найхутчэй беглі дамоў.

Выйшаў з касцёла і я, было страшна, бо ніколі не чуў стрэлаў так блізка, урэшце ўбачыў і ўзрывы гранат. У мястэчку ўсё заварушылася. Абеду закончыць не ўдалося. Сказалі, што прывезлі хрысціць дзіця. Пайшоў да касцёла. Але хросных там не было. Я знайшоў толькі дзіця, што ляжала на падлозе рызніцы, не было і касцельнага служкі. Паклікаў старога арганіста, але і таго жонка прагнала з касцёла. Папрасіў бальнічнага дзеда ўзяць дзіця, якое хрысціў у хваляванні і ўзбуджэнні, бо ад выбухаў дрыжала паветра і сцены касцёла.

Хацеў ужо выйсці з касцёла, як на парозе сустрэў другую пару хросных-бежанцаў, якім таксама ахрысціў дзіця. Пасля ў комжы і стуле (літургічнае адзенне – рэд.) выйшаў з касцёла, замкнуў яго, накінуўшы паліто, накіраваўся ў мястэчка.

Быў гатовы да смерці, гатовы ісці на месца бою, каб зрабіць апошнюю паслугу параненым, але да таго не дайшло. Стрэлы станавіліся ўсё радзейшымі, урэшце зусім спыніліся. Толькі з-за муру ўбачыў першы нямецкі патруль, які абстрэльваў кусты.

Усё супакоілася перад надыходам ночы, толькі на ўсходзе відаць было некалькі зарываў у ваколіцах Гудагая. Людзі пачалі вяртацца дамоў.

Ноч правёў у чаканні. Паскладаў кніжкі і іншыя рэчы, каб на выпадак пажару ўратаваць. Цэлую ноч у ваколіцах Гудагая і Меднікаў відаць былі зарывы пажараў. Раніцай даведаўся, што ў двары начавалі немцы; яўрэі з вялікай радасцю чакалі іх у мястэчку.

У 8 гадзін адслужыў ціхую святую імшу і пасля чаю ўбачыў немцаў. Досыць арыгінальна выглядалі яны ў сваіх касках. За вёскай Грыганы немцы ставілі гарматы і рыхтаваліся да бітвы. Табарышкі размешчаныя ў даліне, ім нічога не пагражала, прыкрытыя дрэвамі, заставаліся ў поўнай бяспецы, на іх ніякай увагі ваяўнікі не звярталі. Бітва праходзіла на роўным узвышшы і можна было за ёю назіраць, што я і зрабіў, бо даўно аб гэтым марыў.

Першымі пачалі немцы. Артылерыя дала залп, хочучы выявіць месца знаходжання рускіх, але рускія маўчалі. Стрэлы пакуль што былі рэдкія. Вінтовачных зусім не было чуваць.

Нарэшце артылерыя замоўкла, угары з'явіліся сігнальныя ракеты, знак да атакі, а пад гарой, як вужака, высунулася чорная шарэнга нямецкіх салдат, памалу набліжаючыся ў кірунку рускіх акопаў. У гэты момант пачулася бесперапынная страляніна з вінтовак і кулямётаў, ствараючы суцэльны трэск і гук, да якога пачала далучацца ўжо руская артылерыя. Прыглядаўся я да ўсяго гэтага з вялікім зацікаўленнем, страху ніякага не было, я гатоў быў ісці на поле бою.

Выгнаныя немцамі і рускімі з вёсак, якія ляжалі на лініі агню, людзі са сваім дабром згрудзіліся ў мястэчку, дзеці плакалі, жывёла рыкала, усюды панаваў страх, трывога і адчай. У некалькіх месцах з'явіліся зарывы новых пажараў – гарэлі і Насканьцы.

**Даведка "РГ". Міхал Сапоцька,** каталіцкі святар (1888 – 1975). Нарадзіўся ў Юшаўшчыне на тэрыторыі сённяшняга Валожынскага раёна. Пачатковае навучанне атрымаў у Забрэззі ля Валожына і ў Ашмянах. Беатыфікаваны каталіцкім касцёлам.

**Міхал САПОЦЬКА.**
**Пераклад з польскай Яўгеніі Чаплінскай.**
**Заканчэнне будзе.**

КАЛЯНДАР

**12 студзеня.** 95 гадоў з дня нараджэння Васіля Хомчанкі (1919 – 1992), беларускага пісьменніка.

***

**14 студзеня.** 110 гадоў з дня нараджэння Віктара Белага (Аронавіча, 1904 – 1983), кампазітара, музычнага публіцыста, народнага артыста Расіі, заслужанага артыста Беларусі.

***

**75 гадоў** з дня нараджэння (1939) Васіля Шаранговіча, беларускага графіка, педагога. Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1978). Заслужаны дзеяч культуры Польшчы (1986). Народны мастак Беларусі (1991). Прафесар (1981). Нарадзіўся на Мядзельшчыне, у сям'і кавыля. Першай настаўніцай жывапісу для Васіля была мама, якая сама марыла стаць мастачкай, ды не мела магчымасці. Пасля заканчэння Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута (БТМІ, 1966) Васіль Шаранговіч працаваў у выдавецтве "Беларусь", а пасля на працягу 25 гадоў загадчыкам кафедры графікі, прарэктарам па навучальнай працы і рэктарам БТМІ. З 1997 года Васіль Шаранговіч на працягу 12 гадоў займаў пасаду дырэктара Музея сучаснага выяўленчага мастацтва. Сёння кіраўніком гэтага музея з'яўляецца яго дачка, Натальля Васільеўна Шаранговіч. За больш чым сорак гадоў творчасці мастак праілюстраваў больш за 60 кніг, палова з якіх адзначаная на ўсесаюзных і рэспубліканскіх конкурсах, у тым ліку чатырма дыпломамі і медалямі Францішка Скарыны. У станкавай графіцы шырока ўжывае нацыянальныя мастацкія традыцыі. У 1986 за нізку гравюраў "Памяці вогненных вёсак" Васіль Шаранговіч быў узнагароджаны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі і бронзавым медалём трыенале "Майданэк-85" у Польшчы. Выставы мастака экспанаваліся ў многіх краінах Еўропы, Азіі і Амерыкі. Ілюстраваў "Маніфест Камуністычнае партыі", дзіцячую кнігу "Залаты ключык", выданні паэмаў Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш" і Якуба Коласа "Новая зямля". Літаграфія Леніна, створаная Шаранговічам, прызнаная найлепшай у Савецкім Саюзе.

***

16 студзеня. 95 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Алоўнікава (1919 – 1996), беларускага кампазітара, народнага артыста Беларусі.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

ДУХОЎНАСЦЬ

# Арган Свірскага касцёла святога Мікалая

**МЯДЗЕЛ. У 1929 годзе вернікі Свірскай парафіі пачалі збор сродкаў на будаўніцтва аргана.**

Пэўныя ўнёскі зрабілі паны Хамінскі і Бішэўскі, астатнія грошы збіраліся з парафіян. Заказалі вырабіць арган віленскаму майстру Эдварду Пшытульскаму. Будаваўся арган у эксклюзіўным парадку менавіта толькі для Свірскага касцёла з улікам памеру будынка, месца ўстаноўкі, акустыкі і г. д. Кошт аргана складаў 15 000 злотых, што раўназначна 120 тонам збожжа. Арган устанаўліваўся на працягу шасці месяцаў: з чэрвеня па снежань 1930 года.

Гэты музычны інструмент валодаў мноствам тэмбраў, складаўся з сістэмы 142-х трубак: 68 сасновых і 74 металічных. Ён меў 139 клавіш. Шаснаццаціналосы арган па гукавым аб'ёме раўняўся цэламу сімфанічнаму аркестру. Сучаснікі сцвярджаюць, што гучанне аргана стварала моцнае ўзнёслае ўражанне.

На працягу 30-ці гадоў парафіяне цешыліся яго цудоўнай музыкай, а ў 1961 годзе касцёл зачынілі, арган дэмантавалі і завезлі ў Маладзечанскае музычнае вучылішча, дзе ён доўгі час праваляўся на складзе, прыйшоў у нягоднасць, быў спісаны і знішчаны.

**Іван ДРАЎНІЦКІ,**
**вёска Камарова.**



Фота зафіксавана Іванам ДРАЎНІЦКІМ.

Арган Свірскага касцёла.

# Уладзімір Церабун: “Я вельмі люблю родную Смаргонь і ганаруся ёю”

**СМАРГОНЬ. Скульптар, ураджэнец нашага рэгіёна, ганаровы грамадзянін Смаргоні, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Церабун стварае сёння для роднай Смаргоні “Мядзведжую акадэмію” і мемарыяльны комплекс, прысвечаны Першай сусветнай вайне.**

Са спадаром Уладзімірам мы сустрэліся ў яго майстэрні ў Мінску. Яна і сапраўды падобная на творчы прыстанак. Чорныя фіранкі аддзяляюць адзін пакой ад другога. Яго працоўнае месца – чорны стол, чорнае крэсла, чорная лямпа, чорны камп’ютар. Адчуванне такое, быццам знаходзішся ў іншым свеце, дзе дзённае святло наўрад ці ўбачыш. Ды і паўсюль скульптуры: вялікія, маленькія, завершаныя і не, іх накіды, эскізы.

### Ён мог быць музыкай, але “навошта два музыкі ў хаце”

Нарадзіўся творца на Смаргоншчыне ў вёсцы Несцяняты. Калі яму было гады тры, бацька перавёз усю сям’ю на хутар пад Смаргонню. А сям’я была вялікая, бацькі мелі шасцёра дзяцей. Ды пяцёра з іх – хлопцы.

Пасля бацька, які працаваў на лесазаводзе пілатачыльшчыкам, пабудаваў у Смаргоні дом.

– І ў нас пачалося новае жыццё, – прыгадвае Уладзімір Церабун. – Шмат што для мяне зрабіў **Аляксандр Дзяруга**. Ён быў сваёго роду Макаранкам у Смаргоні. Заўсёды быў з моладдзю. Тады дзве школы былі: беларуская і руская. Я вучыўся ў першай беларускай. І ён ведаў усіх дзяцей. Арганізаваў аркестр цымбалістаў, аркестр народных інструментаў. Быў сярод стваральнікаў ансамбля імя Агінскага. Сам музыку пісаў і акрамя гэтага выключна валодаў фатаграфіяй. Так што ўсё ішло ад яго. Ён хацеў, каб я быў музыкантам. Аднак у мяне брат цымбаліст, і бацька сказаў: “Навошта два музыканты ў хаце?”

Уладзімір у школьныя гады займаўся ў цымбальным аркестры. Пабачыўшы, як дзецям нязручна трымаць цымбалы на каленях, якія ўвесь час ссоўваліся ўніз, ён распрацаваў канструкцыю металічных ножак. Яны закручваліся і выкручваліся. Але пра патэнт творца тады не думаў, бо “проста хацеў дапамагчы дзецям”. Ад таго часу ў 1964 годзе Барысаўская фабрыка музычных інструментаў пачала рабіць цымбалы на ножках.

– Мне вельмі падабалася ляпіць, майстраваць. Музыка была як хобі і засталася па сённяшні дзень. Тут ёсць гітара, і ў Смаргоні цудоўны інструмент маю. І на цымбалах іграю, і на балалайцы, і на фартэпіяна. Вядома, як аматар. Так што музыка са мной засталася па жыцці. У дзяцінстве ўсё цікавіла: і музыка, і фатаграфія, і авіямадэлізм, і караблебудаванне, ракетабудаванне. Мы ўвесь час шукалі штосьці цікавае ў жыцці.

### Паступаць у інстытут давялося два разы

У 1965 годзе Уладзімір вырашыў паступаць у тэатральна-мастацкі інстытут. Праўда, набору на скульптуру тады не было, паступаў на кераміку. “Заваліўшы” жывапіс, пайшоў на тры гады служыць у Савецкую Армію.

Затое вярнуўшыся, паступіў, ды ўжо на аддзяленне скульптуры.

– Раней у інстытут маглі прыняць без адукацыі. Я ж і паступіў, не маючы за спіной ні мастацкай школы, ні тым больш вучылішча. Цяпер жа без гэтага нікуды цябе не возьмуць. Раней інакш было. Паглядзелі, што чалавек нядрэнна лепіць, значыць, з яго можа штосьці атрымацца. Часам атрымлівалася, часам – не. Памятаю выпадак, паступаў разам са мной хлопец. Дык ён сціэорыкам, раскладным нажом, рабіў скульптуры. Але так добра зрабіў на экзамене копію з бюста, што журы ахнула. На самой жа справе, акрамя таго, як рабіць дакладныя копіі, ён так нічому і не навучыўся.

– Такія ж, як я, – працягвае спадар Уладзімір, чалавек з вёскі, – імкнуліся да нечага. Я ніколі не прапускаў заняткі, толькі што іншы раз па суботах апошнія пары, каб паспець на электрычку і прыехаць дамоў у Смаргонь. Некаторых жа гарадскіх вылоўлівалі, каб на заняткі прыйшлі.

На Міншчыне на месцы спаленай фашыстамі ў 44-м годзе вёскі Дальва цяпер стаіць мемарыял. Ён – справа рук Уладзіміра Церабуна, яго дыпломная праца.

Дзякуючы мемарыяльнаму комплексу Уладзімір Церабун скончыў інстытут на год датэрмінова і атрымаў дыплом “з адзнакай”.

– Вы ж ведаеце, што я 27 гадоў адпрацаваў у Гродне? – пытаецца ў мяне спадар Уладзімір. – Чаму Гродна? Бо ў Мінску папросту баяўся застацца – тут столькі мэтраў ад мастацтва!



Фота забяспечанае Уладзімірам ЦЕРАБУНОМ.

**Уладзімір Церабун, скульптар, ураджэнец нашага рэгіёна, ганаровы грамадзянін Смаргоні, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь.**

Больш за сем гадоў узначальваў абласную арганізацыю Беларускага Саюза мастакоў. Аднак сталіца яго ўсё ж да сябе прыцягнула і прыняла. У Мінск пераехаў у 2001 годзе.

– Але сувязь з Гродзеншчынай не парваў, – напісаў ён у аўтабіяграфіі, змешчанай у кнізе, прысвечанай ягонай творчасці. – Я вельмі рады, што пасля ад’езду мае скульптурныя кампазіцыі ўсталяваны ў Гродне, Скідалі, Вялікай Бераставіцы, Свіцязі, Смаргоні, Зэльве. Я вельмі люблю родную Смаргонь і ганаруся ёю. За сорак гадоў творчасці правёў 16 персанальных выстаў як у рэспубліцы, так і за яе межамі. Гэта вельмі цяжкая, адказная работа, і накладная фінансава.

## Пражыў у Смаргоні ўсё жыццё, але ствараць для яе пачаў толькі цяпер

**СМАРГОНЬ. “У гэтым вялікая памылка, – лічыць творца. – Аднак мне не давалі нічога рабіць”.**

Яго творы станковай скульптуры і дробнай пластыкі можна пабачыць у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь у Мінску, мінскім музеі імя Янкі Купалы, музеі імя Якуба Коласа, Фондзе Беларускага Саюза мастакоў, Гродзенскім гісторыка-краязнаўчым музеі, Гедзевіцкім гісторыка-краязнаўчым музеі. Каля 50 твораў знаходзяцца ў Смаргонскім краязнаўчым музеі. Аднак у горадзе, дзе мастак правёў сваё дзяцінства і ўсё жыццё, дагэтуль былі ўсталяваны толькі тры мемарыяльныя творы.

Адзін з іх, “На хвалях часу”, створаны ў суаўтарстве з **Аляксандрам Крахалёвым** да 500-годдзя першага ўпамінання Смаргоні, якое адзначалі ў 2003 годзе.

Другі – мемарыяльная дошка заслужанаму дзеячу культуры Беларусі Аляксандру Дзяругу, які з 1937 па 1979 год жыў і працаваў у Смаргоні і з якім звязанае дзяцінства творцы.

Сёлета ў Смаргоні на вуліцы Танкістаў, непадалёк ад цэнтральнай бібліятэкі, усталявалі помнік воінам-інтэрнацыяналістам “Рэха вайны”. Над ім Уладзімір Церабун і архітэктар **Аляксандр Бажыдай** працавалі больш за год.

– Мне здаецца, што гэтая праца вельмі ўдалая, выразная, – кажа спадар Уладзімір. – Людзі называюць яе “прастрэленае сэрца”. І добра, што так называюць. Гэта высокая адзнака.

Праўда, над гэтым следам ад снарада мастаку давялося пакарпець. Калі камяні прывезлі і ўсталявалі, след аказаўся занадта малы, праз яго амаль не прабівала сонечнае святло. Атрымалася так, бо кожны з камянёў рабіўся паасобку. У гэтым жа святле была сама задума. Давялося перарабляць, каб снарад быў больш выразны.

– Аднак што тут скажаш? Гэта творчасць, – заўважае мастак. – Без памылак не бывае.

У хуткім часе ў Смаргоні з’явіцца “Мядзведжая акадэмія”, а следам за ёй – мемарыяльны комплекс, прысвечаны Першай сусветнай вайне.

# Мядзведжая акадэмія. "Я чакаў гэтай работы дзесяць гадоў"

**Эскіз гэтай скульптуры Уладзімір Церабун распрацаваў яшчэ дзесяць гадоў таму. Аднак толькі цяпер справа зварухнулася з месца.**

– Дзесяць гадоў я чакаў гэтай работы, – распавядае скульптар Уладзімір Церабун. – Эскіз быў распрацаваны яшчэ да 500-годдзя Смаргоні.

**Смаргонь вядомая ад пачатку 16 стагоддзя як прыватнаўласніцкае мястэчка Зяновічаў, Радзівілаў, Пшэздзецкіх. У 2003 годзе горад азначыў сваё 500-годдзе.**

– Праўда, планавалі паставіць скульптуру ў іншым месцы, насупраць універмага, – працягвае мастак. – І добра, што там не паставілі. Прайшло дзесяць гадоў, я прыглядзеўся і думаю: ну, навошта там ставіць? Там столькі транспарту, столькі людзей ходзіць. Сёння гэта не тое месца, дзе людзі будуць адпачываць, глядзець на скульптуру і фатаграфавацца ля яе. Тады пасля пазней прыйшла ідэя паставіць кампазіцыю ў Цэнтральным парку. Побач стаіць помнік Францішку Багушэвічу, касцёл, амфітэатр, паркавая скульптура. Выключнае месца!

Дарэчы, у канцы алеі плануюць паставіць яшчэ і ратонду.



Эскіз скульптурнай кампазіцыі "Мядзведжая акадэмія", якая будзе ўсталяваная ў Смаргоні.

Калаж забяспечаны Уладзімірам ЦЕРАБУНОМ.

**Даведка "РГ". Ратонда** – круглая ў плане пабудова з калонамі, звычайна ўвянчаная купалам.

Канчатковы эскіз з канчатковым месцам для скульптуры зацвердзіў яшчэ ў красавіку мастацкі савет у Гродне.

– Аднак вельмі шмат нерваў і часу вымагае атрыманне тэндара, – адзначае скульптар.

Цяпер пляцоўка ў парку ўжо цалкам падрыхтаваная. Пакладзеная плітка і зроблены фундамент, дзе будуць стаяць фігуры.

Над скульптурай тым часам яшчэ працуюць. Робяць яе з чыгуна па частках. Праца вельмі карпатлівая і патрабуе шмат намаганняў.

**– Чаму ж так доўга давялося чакаць скульптуру? – пытаюся ў спадара Уладзіміра.**

– Не было грошай. Ды і для кіраўніцтва горада гэта тады было не самым галоўным. Хаця ў 2003 годзе ідэя спадабалася, усе былі "за". І тады ўся скульптура каштавала 90 мільёнаў у бронзе. Сёння ж кошт дарос да мільярда і ста мільёнаў. У 12 разоў даражэй, чым дзесяць гадоў таму. Вядома, такія грошы на скульптуры ў год беражлівасці ніхто не дасць. Тады я прапанаваў пайсці іншым шляхам і адліць скульптуры з чыгуна. Падлічылі, атрымалася 600 мільёнаў, у два разы танней. І я сабе так сказаў: яшчэ не адзін чыгунны люк не праваліўся. Зробім, дык стаяць будзе.

Такія грошы знайшлі ў абласным бюджэце, і праца пайшла.

– Аднак сёння я рады, што тады не атрымалася, інакш скульптура стаяла б не там, дзе трэба, толькі перашкаджала б, – лічыць мастак. – Як казаў Дастаеўскі, толькі дурань не мяняе сваіх пераканнняў. У дадатак, мядзведзь у першапачатковай версіі быў не самы ўдалы. За гэты час я знайшоў выключны здымак мядзведзя ў цырку ў адным часопісе, які і стаў мне асновай. Атрымаўся значна лепшы.

# Будзе стаяць мемарыяльны комплекс еўрапейскага ўзроўню

**СМАРГОНЬ. Праца над мемарыяльным комплексам, які прысвечаны Першай сусветнай вайне, пачалася ў 2006 годзе. Шмат што зроблена і шмат чаго – не. Пытанне заўсёднае – грошы.**

У 2006 годзе конкурс на эскізны праект і будаўніцтва мемарыяла выйграў скульптар, прафесар, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь Анатоль Арцімовіч.

– Я тады быў у журы, – прыгадвае Уладзімір Церабун. – А на наступны ж дзень ён мне патэлефанаваў і прапанаваў далучыцца да стварэння комплексу. Так што гэта праца стала для траіх: Анатоля Арцімовіча, яго сына Івана, таксама скульптара, і мая.

Комплекс складаецца з дзвюх частак. Адну плануюць пабудаваць да стагоддзя пачатку вайны, другую – да заканчэння.

Першая расцягнецца на 417 метраў. Гэта – цэнтральная алея.

– На ўваходзе будзе напісана, што мемарыяльны комплекс прысвечаны Першай сусветнай вайне, што тут 810 дзён ішлі жорсткія баі і што з 16 тысяч жыхароў вярнулася ўсяго 120 чалавек, – распавядае скульптар Уладзімір Церабун. – Далей ідзе мемарыяльная зона, дзе будзе размешчаная карта супрацьстаяння армій, урны з зямлёй з месцаў баёў. Далей капліца са звонам і Георгіеўскім крыжам. У наступнай частцы алеі будуць усталяваныя тры скульптурныя кампазіцыі: "Бежанцы", "Салдаты Першай сусветнай" і "Крылаты Геній салдацкай славы". Потым яшчэ адна зона – зварот да нашчадкаў.

Аснову другой часткі, што павінна размясціцца ў вёсцы Хадакі, складае скульптурная кампазіцыя "Будзь праклятая ты, вайна". Салдат, уткнуўшы вінтоўку ў зямлю, крычыць у нябёсы і шле праклён вайне.

Фігура павінна размясціцца на ўмоўным брустверы, на якім будуць напісаныя назвы дзяржаў, якія бралі ўдзел у той вайне.

– Вельмі высокую адзнаку даў гэтай кампазіцыі мастацкі савет, – кажа Уладзімір Церабун. – Сказалі, што яна выключная па выразнасці і тэматыцы. Ёй мы нібыта крычым усяму свету, каб была праклятая вайна.

Сіламі горада ўжо расчысцілі месца для алеі даўжынёй 417 метраў. Скульптуры ў бронзе ўжо таксама адлілі за сродкі саюзнай дзяржавы. Яны цягам апошніх чатырох гадоў захоўваюцца ў Смаргоні. Перавозілі іх з завода на трох цягачах.

– Мемарыял паказвае, што любая вайна нясе смерць, разбурэнні і кроў. І наша задача і святы абавязак памятаць пра гэта, – тлумачыць спадар Уладзімір. – Адна са скульптур, крылаты геній, перадае меч будучым пакаленням, што сімвалізуе зварот анёла да нябёсаў, каб не было больш гэтых войнаў. Дарэчы, ёсць такая акалічнасць: фігуры вельмі формістыя. Рабілася гэта з разлікам на тое, што сонечны свет надасць больш выразнасці і дынамікі.



Скульптурная кампазіцыя "Салдаты Першай сусветнай".

Калаж забяспечаны Уладзімірам ЦЕРАБУНОМ.

Пакуль праца зноў прыпынілася.

– Чакаем, калі над намі злітуюцца і дадуць грошы, – кажа скульптар. – На будаўніцтва толькі першай часткі трэба 14 мільярдаў. Гэта грандыёзны праект! Я сам хаджу і не веру, што мы будуем сапраўды мемарыял еўрапейскага ўзроўню.

**20-ю і 21-ю старонкі падрыхтавала Настасся РОЎДА.**

# Зімовыя віды спорту хутка вымруць?




Ці дачакаемся сёлета снегу?

**Другі месяц зімы Беларусь так і не можа дачакацца снежнага покрыву. Праз гэта, зразумела, карэктуецца графік спаборніцтваў у зімовых відах спорту. А як гэта адбіваецца на падрыхтоўцы спартсменаў? І як самі спартсмены ставяцца да такога надвор'я?**

Распавядае намеснік дырэктара дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы №1 **Вольга Гушчына:**

– Вядома, графік спаборніцтваў давялося мяняць. Але мы не ўпадаем у роспач: у мінулым годзе лыжны сезон мы пачалі ў сакавіку. Так што, усё наперадзе. А не будзе снегу, то і не трэба.

**– А спартсмены... Як такое надвор'е адбіваецца на іх падрыхтоўцы?**

– А як жа веласіпедысты зімой? Трэніруюцца ў зале. Так і лыжнікі. Рэгулярна праходзяць трэніроўкі ў зале. Да таго ж, надвор'е дазваляе займацца лыжна-ролерным спортам.

## Сумую па марозе ў мінус 27

– Мяркую, што калі надвор'е будзе і далей такім незімовым, колькасць спартсменаў можа і зменшыцца, – гаворыць **Міхаіл Петух,** кіраўнік турыстычнага клуба "Чарапашкі" цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі, – таму што падрыхтоўкі ў спартыўнай зале ўсё ж такі недастаткова. Лыжы, канькі і іншыя віды зімовага спорту патрабуюць навыку, які, на жаль, у закрытым, цёплым памяшканні не напрацуеш.

**– А вам, як турысту, такое надвор'е, напэўна, падабаецца больш?**

– Не скажыце. Мы, турысты, радуемся любому надвор'ю. Чым цяжэйшыя ўмовы паходу, тым лепей для развіцця, для турыстычнага досведу. У мінулым годзе ў нас быў выпадак. Выходзілі ў паход, калі на двары было мінус 5. А ноччу, у лесе, раптам ударыў мароз аж да 27 градусаў! Вы ведаеце сэнс выразу "траскучыя маразы"? Што гэта за дзіва, вам не перадаць! Такое адчуванне, што ты гномік, сядзіш у лесе, а на цябе ідзе волат. Усе дрэвы трашчаць так, што вушы закладвае. Так што, мароз – гэта добра, я ўсім раіць выбірацца ў лес. Шкада, што правілы тэхнікі бяспекі не дазваляюць гэтага рабіць.

## Аматары лыжаў з сумам глядзяць у акно

Ад такога надвор'я пакутуюць перш за ўсё аматары зімовых відаў спорту: лыжнікі і сноўбардысты. Як яны адчуваць сябе ў такое надвор'е, адказвае спартсмен-аматар сноўбардыст **Максім Лістапад.**

– Як правіла, лыжнік і сноўбардыст – гэта хобі. Таму мы займаемся сваімі руціннымі справамі, часам з сумам гледзячы ў акно. А тыя, хто захоплены нашмат мацней, ці прафесійныя спартсмены трэніруюцца ў залах на батуце (гэта датычыцца фрыстайлістаў), ездзяць на летніх лыжах. У каго бюджэт дазваляе, той, вядома, ездзіць катацца туды, дзе снег ёсць.

**– А калі зіма так і не надыдзе, якую альтэрнатыву зімовым відам спорту вы маглі б прапанаваць?**

Пакуль у краіне існуюць лядовыя палацы, крытыя гарналыжныя комплексы, будуць і зімовыя від спорту. Мяркую, яны не знікнуць. Альтэрнатыва спорту – толькі спорт, але тут кожны выбірае сам, у мяне зараз плаванне. Я не абмяжоўваюся адным відам, чаго і іншым жадаю.

**– Як вы ўвогуле ставіцеся да цяперашняй зімы?**

– У прыроды няма дрэннага надвор'я, а ў банкаўскай картцы няма межаў. Зіма ёсць, толькі не ў нас. А наогул, як і любы рамантык, я люблю зіму і чакаю яе ў канцы месяца. Не прыйдзе – паеду яе шукаць. А бясснежныя зімы бываюць сумнымі толькі тады, калі ў цябе няма фантазіі.

**Наталля ТУР.**

**ФУТБОЛ**

# Галоўны трэнер ФК "Смаргонь" Павел Бацюта: "Шостае месца для нас – не мяжа"

**СМАРГОНЬ. Сайт fc-smorgon.by змясціў інтэрв'ю галоўнага трэнера каманды Паўла Бацюты. Прыводзім вытрымкі з размовы.**




Павел Бацюта, галоўны трэнер ФК "Смаргонь".

**Пра мэту на сезон**

– На выніковым сходзе кіраўніцтва клуба вырашыла захаваць касцяк каманды і правесці кропкавае ўзмацненне складу. Што тычыцца мэты на сезон, то планка адназначна будзе павышана. Шостае месца для нас не мяжа: трэба заўсёды развівацца і ісці наперад. Канкрэтная задача будзе агучана бліжэй да сезона, бо зараз на эмоцыях можна і ў вышэйшую лігу захацець. Амбіцыі ёсць, але неабходна ўлічваць шматлікія складнікі футбола: фінансы, падбор футбалістаў, інфраструктуру і гэтак далей. Развіццё павінна ісці не толькі ў гульні асноўнай каманды, але і па іншых напрамках. Вялікім крокам наперад для смаргонскага футбола стане адкрыццё штучнага поля на стадыёне ДЮСШ-2. Гэта палегчыць трэніровачны працэс і нам, за што хацелася б выказаць падзяку старшыні райвыканкама **Мечыславу Браніслававічу Гою** і ўсім датычным да гэтага праекта людзям.

## Пра мясцовых выхаванцаў

**– Калі мы ўжо загаварылі пра смаргонскі футбол, то раскажыце аб нашых выхаванцах і іх перспектывах у камандзе. Ці прапануюцца кантракты мясцовым футбалістам. Можа, Леанід Ковель вернецца пагуляць на малую радзіму?**

– Што тычыцца Леаніда, то многія футбалісты заканчваюць там, дзе і пачыналі. Але мы жадаем Леаніду паспяховай гульні ў больш моцных лігах, таму сёння рана яму дадому. Але нават на прыкладзе Ковеля мы бачым, што ў Смаргоні могуць быць таленты. Далёка не трэба за прыкладамі хадзіць: **Максім Яблонскі**, хлопец 1996 года, ужо ў дэбютным для сябе сезоне ў першай лізе згуляў крыху менш за дзвесце хвілін у 12 матчах і вызначыўся галявой перадачай. Для яго толькі трэніроўкі з асноўнай камандай – вялікі плюс: і мы бачым, што пры добрай працы ён дасягне вынікаў. **Сяргей Бандарэнка** быў у нас у арэндзе: ён пачаў амбіцыйна, але, як і ў многіх маладых футбалістаў, у яго здарыўся спад, які ён перажыў і выдаў некалькі добрых гульняў у канцоўцы. З нагоды яго перспектыў у нашай камандзе нічога не магу сказаць: футбаліст належыць ФК "Дынама-Мінск". Ятчэ смаргонскі футбол прадстаўлялі ў сезоне-2013 **Алег Попель, Вячаслаў Замара** і, вядома ж, **Уладзіслаў Дукса**. На сённяшні дзень мы актыўна працуем з маладзечанскімі футбалістамі, бо нашы гарады аддзяляюць усяго сорак кіламетраў і зручная лагістыка (добрая траса і чыгунка). Таксама я абмяркоўваю перспектывы з **Андрэем Чупрынскім** і **Захарам Захарэвічам**. Андрэй вучыцца ў Мінску, з-за чаго яго ўдзел у трэніровачным працэсе абцяжараны. Але мы помнім пра яго, бо ён не будзе вучыцца ўсё жыццё. І Захар, і Андрэй ужо прыцягваліся на трэніроўкі асноўнай каманды ў мінулым годзе.

## Хто пакідае каманду

– Па розных прычынах пакідаюць каманду **Літвінчук, Шапятоўскі, Цюніс** і **Попель**. А **Уладзіслаў Дукса** завяршае гульнявую кар'еру, але застаецца ў смаргонскім футболе, каб трэніраваць маладое пакаленне. Больш канкрэтная інфармацыя па трансферных пытаннях (хто прыходзіць, хто сыходзіць) будзе вядома да сярэдзіны студзеня.

## Пра бюджэт клуба

**– Адзін з найбуйнейшых парталаў краіны, Goals.by, апублікаваў бюджэты футбольных клубаў першай лігі. Па іх інфармацыі, бюджэт ФК "Смаргонь" складае 700 000 долараў. Наколькі праўдзівая гэтая інфармацыя?**

– Не ведаю, як бы мякчэй сказаць, але гэта інфармацыя цалкам не адпавядае рэчаіснасці. Лічба завышаная амаль у два разы, але за канкрэтыкай трэба звярнуцца да кіраўніцтва клуба.

**Паводле fc-smorgon.by.**

**НАВІНЫ СПОРТУ**

## Навучэнцы СШ №3 перамаглі ў шахматным турніры

**ВІЛЕЙКА.** У цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі 3 і 4 студзеня прайшоў шахматных турнір. Удзельнічалі ў ім навучэнцы ўстаноў адукацыі розных узростаў.

Актыўны ўдзел прынялі дзеці з вілейскіх устаноў: сярэдніх школ №3 і №5, гімназіі №1 "Логас" і гімназіі №2, пачатковай школы №6.

Пераможцам турніру сярод хлопцаў стаў прадстаўнік СШ №3 Вілейкі **Мікіта Біслюк. Павел Чаўлытка** з гэтай жа школы заняў другое месца. На трэцім – **Аляксей Емяльянаў** з вілейскай гімназіі №1 "Логас".

Сярод дзяўчат перамагла **Марыя Пракаповіч** (сярэдняя школа №3 Вілейкі).

**Дыяна Панцялеева** з гімназіі №1 "Логас" была другой. А трэцяе месца заняла юная ўдзельніца турніру – трэцякласніца сярэдняй школы №3 Вілейкі **Вікторыя Палонская**.

## Цэнтр "Надзея" запрашае на каратэ

**ВІЛЕЙКА.** 11 і 12 студзеня на базе дзіцячага рэабілітацыйна-аздараўленчага цэнтра "Надзея" пройдуць рэспубліканскія спаборніцтвы па шатакан каратэ-до.

Судзейскую калегію спаборніцтваў ўзначальвае суддзя міжнароднай катэгорыі **Святлана Вількіна**.

У рамках праграмы дзеці будуць не толькі спаборнічаць, але змогуць пазнаёміцца з цэнтрам падчас займальнай экскурсіі, паўдзельнічаць у гульнявой праграме, патанцаваць на вясёлай дыскатэцы і пазнаёміцца са сваімі аднагодкамі – хлопцамі з Гомельскай і Мінскай абласцей, якія прыехалі на санаторна-курортнае лячэнне ў дзіцячы цэнтр "Надзея".

Спаборніцтвы пройдуць у рамках юбілейнага года, прысвечанага 20-годдзю з дня адкрыцця дзіцячага цэнтра "Надзея".

**Аддзел інфармацыі.**

■ КОНКУРСЫ

## У Мядзеле спявалі сем'ямі

**МЯДЗЕЛ. У гарадскім Доме культуры 30 снежня ўпершыню прайшоў конкурс сярод сем'яў, якія спяваюць.**

Называўся ён "Ваш выхад". Удзельнічалі ў конкурсе шэсць сямейных камандаў з розных куткоў Мядзельшчыны. Выходзілі на сцэну з дзецьмі, хтосьці браў у каманду і далейшых сваякоў – напрыклад, братавую.

Кожная сямейная каманда выконвала дзве песні, адна з іх – на навагоднюю тэматыку.

Журы ўлічвала вакальныя дадзеныя, творчы падыход, арыгінальную падачу матэрыялу, уменне наладзіць кантакт з гледачамі.

– Уразіла тое, як адказна і сур'ёзна сем'і рыхтаваліся да конкурсу. Таму і мерапрыемства атрымалася, – кажа дырэктар Мядзельскага ГДК **Ганна Казакевіч**.

Перамагла ў конкурсе сям'я **Ляшковічаў** з вёскі Будслаў. А самай згуртаванай назвалі сям'ю **Саўчыкаў** з Мядзела.

Кожную каманду ўзнагародзілі падарункам. Пераможцы ж атрымалі электрасушылку.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ДУХОЎНАСЦЬ

## Канцэрт да свята

**ВІЛЕЙКА. У нядзелю, 12 студзеня, у Палацы культуры адбудзецца традыцыйны святочны канцэрт "Святло Нараджэння Хрыстова".**

Ад 14 гадзін пачнуцца выставы духоўнай літаратуры, дэкаратыўна-прыкладнога і выяўленчага мастацтва, выступленні фальклорных калектываў, званароў.

Святочны канцэрт прызначаны на 16 гадзін. У ім запланаваны ўдзел царкоўных хораў з Вілейшчыны, дзіцячых калектываў Цэнтра эстэтычнага выхавання, школы мастацтваў, вілейскай гімназіі №2, мужчынскага вакальнага ансамбля "Благавест" з Мінска.

Уваход на канцэрт вольны.

**Аддзел інфармацыі.**

■ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЕ

### Як вы сябе адчуваеце пасля сустрэчы Новага года?

| | |
|---|---|
| 43% | Усё дрэннае засталося ў 2013! Я гатовы/ая да новых дасягненняў! |
| 13% | Сёння ўжо лягчэй |
| 13% | Няўжо ўжо ўсё? |
| 11% | Баліць галава, жывот і нешта яшчэ |
| 9% | Ні грошай, ні настрою |
| 4% | Сушыць |
| 4% | Зноў абдурылі! Калі мне ўжо дадуць нармальны падарунак? |

Усяго галасоў 44

■ СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 4 | | | 8 | | | | 2 | 3 |
| 2 | | 3 | 5 | | 1 | | | |
| | | 5 | 6 | | | 1 | | |
| 4 | | | | | | | | |
| | 1 | | | | | | 7 | |
| | | | | | | | | 6 |
| | | 7 | | | 8 | 4 | | |
| | | | 1 | | 3 | 8 | | 5 |
| 3 | 8 | | | | 9 | | 1 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



■ СВЯТЫ

## Дабрачынныя акцыі працягваюцца



Фота забяспечана Наталляй РЫЖЭВІЧ.

Падчас сустрэчы ў педыятрычным аддзяленні цэнтральнай раённай бальніцы.

**ВІЛЕЙКА. Штогод напярэдадні Новага года Вілейскі раённы цэнтр дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі праводзіць навагоднія ранішнікі, у тым ліку і дабрачынныя.**

У канцы снежня адбылася сустрэча дзяцей з Дзедам Марозам і Снягурачкай, а таксама казачнымі Вядзьмаркай і Чорцікам у педыятрычным аддзяленні цэнтральнай раённай бальніцы. Салодкія прызы для дзетак забяспечыў наш цэнтр, а мяккія цацкі – раённы сацыяльна-педагагічны цэнтр.

Творчы калектыў з ліку педагогаў і навучэнцаў цэнтра дадатковай адукацыі паказаў каля навагодняй ёлкі прадстаўленне па матывах казкі "Снежная Каралева" для выхаванцаў раённага цэнтра карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі, аддзялення дзённага знаходжання дзяцей-інвалідаў і маладых інвалідаў "Ластаўка", членаў раённага таварыства інвалідаў дзяцінства.

Таксама Дзед Мароз і Снягурачка наведалі дамы, дзе жывуць дзеці-інваліды. Падарункі для іх падрыхтавалі піянеры падчас правядзення раённай дабрачыннай акцыі "Цуды на Каляды".

У студзені калектыў цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі прадоўжыць шэраг дабрачынных навагодніх і калядных акцый. Плануецца наведаць 11 студзеня Куранецкі дом-інтэрнат для састарэлых і інвалідаў з дабрачыннай праграмай "Калядкі – добрыя святкі". 14 студзеня ў рамках пасяджэння клуба для дзяцей-інвалідаў і іх бацькоў "100 сяброў" адбудуцца "Калядныя сустрэчы".

**Наталля РЫЖЭВІЧ,**
**намеснік дырэктара Вілейскага раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі.**

■ РЭПЕРТУАР

### Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна



*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Камедыя "**Сябры сяброў**" (Расія, 2013, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
10, 11 студзеня – 21.00
12, 13 студзеня – 18.30
14-16 студзеня – 21.00
Кошт білета – 40 000 рублёў

Анімацыйныя прыгоды "**Іван Царэвіч і Шэры Воўк**" 3D (Расія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
10 студзеня – 17.00
12 студзеня – 13.30
15 студзеня – 17.00
Кошт білета – 35 000-40 000 рублёў

Анімацыйныя прыгоды "**Халоднае сэрца**" 3D (ЗША, 2013, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
11 студзеня – 13.30
Кошт білета – 35 000 рублёў

Навагодняя камедыя "**Ёлкі 3**" (Расія, 2013, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
10 студзеня – 19.00
11 студзеня – 16.00
12, 13 студзеня – 21.00
15, 16 студзеня – 19.00
Кошт білета – 35 000-40 000 рублёў

Фэнтэзі, прыгоды "**Хобіт: Пустка Смаўга**" 3D (ЗША, 2013, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагогаў)
11 студзеня – 18.00
12 студзеня – 15.30
14 студзеня – 18.00
Кошт білета – 45 000-50 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Трылер "**Лімб**" (Канада, Францыя, 2013, фільм дазволены для прагляду гледачам, якім за 16 год)
10 студзеня – 19.30, 21.30
11 студзеня – 19.30
12, 13 студзеня – 21.30
Кошт білета –35 000 рублёў

Меладрама, камедыя "**Па прыкметах сумяшчальнасці**" (ЗША, 2012, фільм дазволены для прагляду гледачам, якім за 16 год)
14 студзеня – 19.30
15, 16 студзеня – 21.30
Кошт білета –35 000 рублёў

Камедыя "**Суддзя Дрэд**" (ПАР, Вялікабрытанія, 2012, фільм дазволены для прагляду пасля 18 год)
11 студзеня – 21.30
12 студзеня – 19.30
14 студзеня – 21.30
15, 16 студзеня – 19.30
Кошт білета –35 000 рублёў

Анімацыйнныя прыгоды "**Сарыла: Згубленая зямля**" (Канада, 2013, без узроставых абмежаванняў)
10 студзеня – 17.00
11, 12 студзеня – 15.00, 17.00
Кошт білета – 15 000 рублёў

Анімацыя "**Сябрыназаўсёды**" (Германія, 2009, без узроставых абмежаванняў)
11, 12 студзеня – 13.00
Кошт білета – 15 000 рублёў
Тэл. **: 8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

### Мінскі абласны драматычны тэатр

**Рэпертуар на студзень 2014 года**

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"Цётухна Прастуда і Новы год"** (казка-мюзікл), Наталля Марчук
15 студзеня – у 11.30

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. "**Нязваны госць**" (сур'ёзная камедыя), Святлана Бартохава
14 студзеня – у 19.00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл: **76-17-32, 75-24-17.** E-mail: modt@tyt.by, http://theatre-modt.by/

### Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**"Меч анёла "**. І.Сідарук.
12 студзеня – у 12.00.

Чакаем вас: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

■ ГАРАСКОП (10-16 СТУДЗЕНЯ)



**Авен.** Усе ідэі будуць лёгка ўвасабляцца ў жыццё. Вам захочацца падзяліцца імі, а таксама поспехамі з навакольнымі. Але будзьце абачлівыя: выбірайце блізкіх сваякоў ці верных сяброў – яны не толькі выслухаюць, але і дадуць параду.



**Цялец.** Вам пашанцуе ва ўсіх сферах жыцця, не адмаўляйцеся ад паездкі за мяжу – яна не толькі будзе ўдачная, але і акрыліць вас.



**Блізняты.** Не будзе строгія да блізкіх вам людзей, а вось да сябе трэба прад'явіць павышаныя патрабаванні.



**Рак.** Прыслухоўвайцеся толькі да слоў важных для вас людзей, бо іншыя могуць проста крытыкаваць вашы дзеянні з-за зайздрасці.



**Леў.** Вас чакаюць раптоўныя перамены, якія будуць, хутчэй за ўсё, са знакам плюс. І будзьце акуратныя з тым, што ясце, бо могуць узнікнуць рэзкія болі ў страўніку ці кішэчніку і выклікаными яны будуць няякаснымі прадуктамі харчавання.



**Дзева.** Паглядзіце на сябе збоку і навучыцеся слухаць іншых людзей. Трымайце сябе ў руках і добра падбірайце словы.



**Шалі.** Вырашайце праблемы з халоднай галавой і не забывайцеся, што нервы і эмоцыі і ёсць прычына ўсіх хвароб.



**Скарпіён.** Ваша абаянне будзе прыцягваць многіх людзей. Таму калі вам сімпатычны нейкі чалавек, зрабіце першы крок.



**Стралец.** Не рабіце нічога такога, аб чым пасля прыйдзецца шкадаваць. І не сячыце канцы, каб не апынуцца ў залежным становішчы ад іншых людзей і іх рашэнняў.



**Казярог.** Перыяд патрабуе праявіць бескарыслівасць, высакароднасць, альтруізм. Узнагарода будзе шчодрай. А калі не зможаце справіцца з эгаізмам, чакайце суровага пакарання.



**Вадалей.** Вы праявіце сябе з лепшага боку, знойдзеце прымяненне сваім талентам. Шмат якія праблемы, якія хвалююць менавіта цяпер, вырашацца самі па сабе.



**Рыбы.** Фартуна зменлівая і непастаянная, але яна будзе шчодрая да вас. Усё, што вам цяпер трэба, – гэта паболей вітамінаў, свежага паветра і станоўчых эмоцый. Памятайце: узнавіць душэўную раўнавагу добра дапамагаюць фізічныя практыкаванні і ванны з адварам заспакаяльных траў.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

9 771991 715006

Камент-эксперт

Rh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

## НАДВОР'Е

**11 студзеня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +2 / +5 | | +1 / +1 | | +1 / +1 | | -4 / -4 | |
| | 726 | ↗ 7 | 735 | ↘ 9 | 735 | ↘ 9 | 736 | ↘ 8 |
| Вільня | +4 / +6 | | +3 / +2 | | +3 / +2 | | -4 / -3 | |
| | 733 | ↗ 6 | 744 | → 5 | 739 | ↘ 2 | 745 | ↘ 5 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 9.27
Захад 17.13
Даўжыня дня 7.46

Усход 13.53
Захад 05.02
Квадра 2

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +3 / +1 | 739 | ↘ 11 |
| Гродна | +2 / +3 | 746 | → 5 |
| Мінск | +1 / +1 | 735 | ↘ 9 |
| Магілёў | +2 / +1 | 738 | ↘ 9 |
| Гомель | +1 / +2 | 756 | ↘ 3 |
| Брэст | +3 / +4 | 747 | → 7 |

### ПРЫКМЕТЫ

- Васільеў вечар (13 студзеня). Шчадраванне. Калі ноччу вецер дзьме з поўдня – год будзе спакотны і добры, з захаду – да вялікай колькасці малака і рыбы, з усходу – чакай ураджаю фруктаў.
- Калі 14 студзеня (Новы год) будзе вялікі туман – да ўраджаю.

## Чытайце праз тыдзень:

- **На Вілейшчыне летась з'явіліся на свет Міледзі і Мохамад. У наступным нумары вы даведаецеся, якімі імёнамі найчасцей называлі дзяцей.**



## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ РЭГІЁНА

Фота зафіксаваў Віталь ШАЎЧУКОМ.

**На нашай старонцы ў сацсетках мы разам з чытачамі шукалі ў рэгіёне месцы, дзе ў пачатку студзеня, – уявіце сабе, – ляжаў снег! Пакуль знайшлі толькі тры месцы: каля Палаца культуры і Лядовага палаца ў Маладзечне і каля Радашкавіцкай музычнай школы (на фота).**



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Ці падабаецца вам такая цёплая, бясснежная зіма?

**Дзмітры Каласоўскі, інжынер:**

– Мяне, як кіроўцу, такая зіма задавальняе. Не трэба машыну ад солі адмываць, праграваць раніцай. Працоўны дзень на вуліцы працэсей пераносіцца. Я за такое надвор'е, як у Крыме, каб вільготнасць маленькая і тэмпература рэдка апускалася ніжэй за нуль. А каб на снег паглядзець, можна і ў горы зганяць.

**Аляксей Маліцкі, студэнт:**

– Снег жа выпаў першага снежня, памятаеце? Нават нечакана, што зіма прыйшла па раскладзе. А потым пайшло-паехала. Дрэнная зіма. Снег павінны быць. Пайду, яшчэ пашукаю.

**Анастасія Карповіч, школьніца:**

– Зіма? Дзе зіма? Я бачу толькі вясну, ці восень, не ведаю. Не, гэта не справа. Зімой трэба катацца на санках, ляпіць снегавіка, насіць рукавічкі і футра.

**Алена Руткоўская, настаўніца музыкі:**

– Зіма павінна быць зімой. Гэтай зімой усё вельмі сумна, гэта шэрасць і роспач выклікаюць дэпрэсіўны стан. Я люблю снежную і марозную зіму, каб можна было пакатацца на лыжах, схадзіць на каток і вярнуцца дадому ў добрым настроі і са здаровым румянцам на твары!

**Аляксей Гамолка, менеджар:**

– Тое, што дождж ідзе ў студзені, гэта ні ў якія вароты не лезе. Хутка снегу будзем здзіўляцца, як дзіву нейкаму. А з іншага боку, ёсць верагоднасць таго, што вясна будзе шыкоўная. Без слоты пад нагамі.

**Андрэй Раць, кіроўца:**

– Не, такая зіма мне не падабаецца, ды і на зіму асабліва не падобная. Мне больш падабаюцца снежныя зімы, з тэмпературай мінус 10-15 градусаў. Такія, каб можна было ўзяць лыжы і пакатацца па ўлюбёных маршрутах. Адзінае, чаму я не люблю зіму, гэта, вядома, за прастуды. І атмасферы свята зусім у гэтым годзе не адчувалася.

**Марына Паповіч, рэдактар:**

– Канешне, станоўча! Класная зіма. Чаму? Ды таму, што я не набыла яшчэ зімовыя боты, а такой зімой не холадна хадзіць і ў асенніх. Акрамя таго, складваецца ўражанне, што і вясна хутка будзе. Спадзяюся толькі, што не як мінулагодняя.

**Падрыхтавала Наталля ТУР.**

Рэгіянальная газета. Rh.by Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 2 (976) 10.01.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 14. Падпісана ў друк у 10.00 9.01.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.